Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!

1

СТУДЗЕНЬ



# БЕЛАРУСЬ КАЛГАСНАЯ

ШТОМЕСЯЧНАЯ
ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАЯ
ЧАСОПІСЬ
АБ'ЯДНАНЬНЯ ПРАЛЕТАРСКА-КАЛГАСНЫХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ



ПАД РЭДАКЦЫЯЙ

С. БАРАНАВЫХ
Іл. БАРАШКА
П. ГАЛАВАЧА
Н. МІХАЙЛАВА




МЕНСК
1932

ВЫДАВЕЦТВА КАЛГАСЬНІК БЕЛАРУСІ

# АД БЕЛАРУСКАГА АБ'ЯДНАНЬНЯ ПРАЛЕТАРСКА-КАЛГАСНЫХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ

Ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы адбываецца пераможнае будаўніцтва сацыялізму ў Савецкім саюзе, у Савецкай Беларусі. Пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі пралетарыят атрымаў шэраг вялікіх перамог на фронце сацыялістычнага будаўніцтва. Тысячы новых сацыялістычных фабрык і заводаў, тысячы машына-трактарных станцый, сотні тысяч калектыўных гаспадарак, дзесяткі тысяч савецкіх гаспадарак ужо зьмянілі твар Савецкага саюзу.

З краіны адсталай, няпісьменнай, Савецкі саюз, а ў тым ліку і Савецкая Беларусь, шпаркімі тэмпамі становіцца краінай перадавой, краінай суцэльнай пісьменнасьці, краінай сацыялістычных фабрык і заводаў, буйных сацыялістычных гаспадарак, новай калектывізаванай вёскі.

Па ўсіх франтох ідзе пераможны наступ сацыялізму. Выкарчоўваюцца рэшткі капіталістычных элемэнтаў—ліквідуецца кулацтва як кляса на глебе суцэльнай калектывізацыі.

Суцэльная калектывізацыя бядняцка-серадняцкіх гаспадарак асноўных збожжавых раёнаў Савецкага саюзу, 61 проц. калектывізаваных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак па СССР і 50 проц. калектывізаваных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак па БССР да 14-й гадавіны Кастрычніка,—выразна сьведчыць аб перамозе сацыялізму ў вёсцы. Цэнтральнай фігурай земляробства стаў калгасьнік. Партыя, пралетарыят маюць надзейную апору ў вёсцы ў асобе дзесяткаў мільёнаў калгасьнікаў.

Гэтыя вялічэзныя посьпехі атрыманы дзякуючы ленінскаму кіраўніцтву, дзякуючы бязьлітаснай барацьбе партыі з правымі і „левымі" апартуністамі, за генэральную лінію будаўніцтва сацыялізму, за выкананьне вялікага пляну—пяцігодкі ў чатыры гады.

Клясавая барацьба, якая адбываецца па ўсёй краіне, адбываецца і на ідэалёгічным фронце, і ў прыватнасьці, на фронце будаўніцтва культуры і літаратуры „сацыялістычнай па зьместу, нацыянальнай па форме" (Сталін).

Кулацтва, буржуазія, бяз боек не здаюць свае пазыцыі, адчуваючы сваю нямінучую пагібель, сваёй шкодніцкай, контррэвалюцыйнай дзейнасьцю, пры дапамозе сваёй агентуры імкнуцца стрымаць наступ сацыялізму, адрадзіць стары буржуазны капіталістычны лад, буржуазную культуру. На гэтым фронце клясавай барацьбы партыя мае вялічэзныя перамогі. Пралетарскія пісьменьнікі ўсіх народаў Савецкага саюзу, аб'яднаныя ва Ўсесаюзным аб'яднаньні асацыяцый пралетарскіх пісьменьнікаў, тысячы рабочых-ударнікаў, закліканых у літаратуру, ствараюць пралетарскую літаратуру. Ідэалёгічна блізкія пралетарыяту пралетарска-калгасныя пісьменьнікі, якія ў сваіх мастацкіх творах адлюстроўваюць рух наперад пераважнай масы вёскі сельска-гаспадарчага пралетарыяту, бедняты і серадняцтва, якія арганізуюць іхныя пачуцьці і сьвядомасьць у бок барацьбы з дробнабур-

жуазнай абмежаванасьцю, за калектывізацыю гаспадаркі, за сацыялістычнае ператварэньне быту і псыхікі ў бок будаўніцтва сацыялізму і, урэшце, у бок бясклясавай сацыялістычнай грамады,— ствараюць пралетарска-калгасную літаратуру.

Ідэёва і творча ўзросшы, пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, Беларуская асацыяцыя пралетарскіх пісменьнікаў становіцца вядучай літаратурнай арганізацыяй у БССР.

Беларускае аб'яднаньне пралетарска-калгасных пісьменьнікаў, пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, будзе змагацца разам з Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменьнікаў за бальшавіцкае мастацтва.

Перад намі стаіць пачэсная задача — стварыць пралетарска-калгасную літаратуру.

Праз заклік ударнікаў-калгасьнікаў у літаратуру Аб'яднаньне павінна выявіць, выхаваць сотні новых пісьменьнікаў з глыбі калектывізаванай вёскі, савецкіх гаспадарак і МТС, дапамагчы ім ідэёва ўзброіцца, авалодаць матэрыялістычна-дыялектычным мэтадам творчасьці, авалодаць ленінскім сьветапоглядам.

Аб'яднаньне павінна перавыхаваць, пераварыць у сваіх шэрагах пісьменьнікаў папутнікаў, якія сваёй творчасьцю імкнуцца стаць саюзьнікамі пралетарыяту, і ў той-жа час асноўнай крыніцай творчасьці якіх зьяўляецца жыцьцё і барацьба бядняцка-серадняцкіх мас вёскі.

Мы павінны яшчэ паўней і яскравей асьвятляць будаўніцтва сацыялістычнай гаспадаркі ў вёсцы, сваёй творчасьцю дапамагаць партыі па арганізацыйна-гаспадарчаму замацаваньню калгасаў, ускрываючы формы клясавай барацьбы ў калгасах, высьвятляючы слабыя бакі, каб хутчэй іх выправіць, паказваючы ў мастацкіх вобразах узоры лепшай работы, каб па іх раўняліся астатнія, паказваючы канкрэтна герояў сацыялістычнага наступу, герояў-ударнікаў калгасных палёў.

Трэба паказаць сельска-гаспадарчаму пралетарыяту і калгасьнікам Савецкай Беларусі замежны рэвалюцыйны рух і гераічнае змаганьне рабочае клясы пад кіраўніцтвам КПЗБ разам з бядняцка-серадняцкімі масамі вёскі Заходняй Беларусі за сваё вызваленьне з-пад белапольскай акупацыі.

Стаіць задача стварыць новы мастацкі вобраз героя-ўдарніка калгасных палёў, барацьбіта за сацыялістычную перабудову вёскі.

Напісаць гісторыі калгасаў, саўгасаў і МТС, іх барацьбу за сацыялізм, таксама зьяўляецца аднэй з асноўных задач Аб'яднаньня.

Беларускае аб'яднаньне пралетарска-калгасных пісьменьнікаў зьяўляецца арганізацыяй масавай. Сотні літаратурных гурткоў БАПКП павінны быць створаны ў раёнах, калгасах, саўгасах і МТС — такая наша задача. Для разгортваньня літаратурна-масавай работы мы выкарыстаем усю папярэднюю практыку работы Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменьнікаў.

Наша Аб'яднаньне зьяўляецца інтэрнацыянальным. Мы ўваходзім у склад Усесаюзнага аб'яднаньня пралетарска-калгасных пісьменьнікаў як братняя літаратура і ставім сваёй задачай мець у сваіх шэрагах пралетарска-калгасных пісьменьнікаў усіх нацыянальнасьцяй БССР.

У галіне крытыкі мы ставім сваёй задачай рашуча змагацца за аўладаньне ленінскім сьветапоглядам, супроць клясава-варожай, кулацкай літаратуры, з вялікадзяржаўным шавінізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе, з беларускім контррэвалюцыйным нацыяналдэмакратызмам і шавінізмамі іншых колераў і адценьняў у літаратуры, дапамагаючы ў той-жа час т. зв. сялянскім пісьменьнікам, якія імкнуцца

стаць саюзьнікамі пралетарскай літаратуры, хутчэй перабудаваць сваю творчасьць. Асаблівая ўвага павінна быць аддадзена нашай крытыкай творчасьці маладых пачынаючых пісьменьнікаў.

Беларускае аб'яднаньне пралетарска-калгасных пісьменьнікаў верыць, што пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, у саюзе з Беларускай асацыяцыяй пралетарскіх пісьменьнікаў, пры неаслабнай увазе да пралетарска-калгаснага літаратурнага руху з боку партыйнай і прафсаюзнай грамадзкасьці, камсамолу, з боку шырокіх мас рабочых саўгасаў і МТС, з боку перадавых калгасьнікаў, — пастаўленыя камуністычнай партыяй задачы Аб'яднаньне вырашыць.

Няхай жыве ЎсеКП(б) — арганізатар і кіраўнік сацыялістычнага будаўніцтва!

За гаспадарча-арганізацыйнае замацаваньне калгасаў, за суцэльную калектывізацыю БССР і ліквідацыю кулацтва як клясы!

Няхай жыве пралетарская літаратура!

Няхай жыве пралетарска-калгасная літаратура!

За бальшавіцкае мастацтва!

Беларускае аб'яднаньне пралетарска-калгасных пісьменьнікаў

Менск, лістапад 1931 году.

---

*Беларускае Аб'яднаньне пралетарска-калгасных пісьменьнікаў і рэдакцыя часопісу—„Беларусь Калгасная"— горача вітаюць пралетарскага паэту Андрэя Александровіча, у сувязі з дзесяцігодзьдзем яго літаратурнай дзейнасьці.*

*Мы ўпэўнены, што далейшая творчая работа паэты будзе даваць прыклад новым пісьменьнікам, якія ідуць у літаратуру ад фабрык, заводаў, калгасных палёў, у агульнай барацьбе за стварэньне бальшавіцкага мастацтва.*

*Шчырае прывітаньне юбіляру!*

Пятрусь Броўка

## ЗЯМЛЯ

Узьнімалася зямля,
гаварыла жывою,
на каленях стаяла,
прасіла нас: —
укладзеце мне грудзі
цёплым гноем,
каб жар у грудзёх маіх
не пагас.
А мы рэзалі яе —
на шматкі,
на кавалкі,
ды барлялі смыкамі
яе чорствы стан —
Падрасталі
Сымоны, Рыгоры ды Янкі
і расьлі
шнуры доўгія
як вярста.
Калі-ж грукаўся сьнежань
касьцяною нагою,
пошчак ветру
у сьвірні
на цымбалах іграў —
Мы-ж пяклі праснакі
напалам з лебядою
і чакалі вясны,
каб адтала кара.
А з мякіны акраец
быў калючы і спорны,
Яго толькі
каменным нутром і глыдаць.
І выходзіў з нас кожны
як зямля тая, чорным
ці хваробу,
ці сьмерць
у Маі спатыкаць.
Гэта толькі кавалак
нашай доўгай дарогі,
ды галоднай тугі
за парожнім сталом,
калі вецер біў шыбы
узьнімаючы скогат
і прыходзіла сьмерць
біць халодным чалом.

За плячыма гадоў —
тая чорная ноч,
што стаяла ў дзень
на бядацкім двары,
І пакінуў сьлімень
свой наседжаны корч,
рукі гневу
крутнулі яго
дагары.
Мы спалілі яго
злосьцю палкіх вачэй
разам з тронам цара
і пагонамі прыстава,
каб пылала у дзень
наша сонца ярчэй,
каб хапала нам
хлеба чыстага,
Мы-ж цябе,
зразумелі, зямля!
Кормім гноем цябе,
кормім каліем —
Каб ты кожнае лета
цяжарнай была
не адным,
а трымя ураджаямі.
Мы скавалі плугі
надзвычайнай хады
сваю сілу з табою
сасваталі —
Каб у нашы гады
ты цьвіла
маладухай багатаю.
Мы-ж цябе
даглядаем
на новы лад,
што цябе
не спазнаць
аж нават —
Каб падносіла нам
ты ўсягды
да стала
пірагі
ды найлепшыя стравы.

Мы упэўнены ў гэтым.
І мы шчыра віталі
перамогу ў Кастрычнік
над атрухаю чорнай —
Хіба сілу малую
ў цябе мы ўклалі
і сваю
і братоў,
што растуць каля горнаў.
І мы хутка ўзрасьцем.
Падышла наша рата
найбагатшага ладу
і нязьежджаных трактаў,
бо для ворага зброя:
на гармату —
гармата;
для цябе-ж,
для сяброўкі
наш пуцілаўскі трактар.
На вялікіх палёх
ды за працаю
рупнай
нашы рукі
ніколі
ня будуць дрыжэць.
Гэта сіла і розум,
што мы склалі да купы
нарадзілі жыцьцё
ад усіх прыгажэй.

Менск, 1931

Цішка Гартны

# КАЛГАСЬНІК ТРЫХОН ЖАРОЛЦА

У прагалак паміж двума новымі сьвірнямі, заняты маладым садам, глянула чырвонае, абмытае расою сонца. Яго вялікі крывяністы круг, павісшы на блакітным машастовым палатне, рашаціўся лініямі ценяў ад новых калоў і кружкамі ад зялёнага лісьця. Нялапыя ўжо антонаўкі, цыганкі і папяроўкі адлівалі чырвоным золатам. Доўгія пасмы яшчэ ненагрэтага праменьня, пукамі і пласьцінкамі, трыкутнікамі і палятушкамі пранізваліся праз лісьця і праз плот ды расьцягаліся на падмеценым дзядзінцы калгасу. На стрэхах падноўленых гумен і абораў, сьвіронкаў і хлявоў гулялі рэзвыя сонечныя зайчыкі.

Каля садовае агароджы, між сьвірнямі, завіхаўся стары Трыхон Жаролца; ён старэнна перавіваў толькі што пастаўленыя ім дубовыя калы доўгімі гнуткімі лазовымі і ракітавымі дубцамі. Адзеты ў адну бялізну, босы і бяз шапкі, Трыхон не заўважаў палоскі сонечных праменьняў, якая падала акурат на сярэдзіну яго зморшчанага і пакарobленага, але з здаровою загараю і яшчэ жыцьцёрадага твару. Прадаўгаваты, з сядзельцам, з трыма чорнымі валасінамі на кончыку, нос старога ўдыхаў шырокім струменем чыстае паветра і тыя-ж сонечныя праменьні і варушыў моцнымі грудзьмі. Яго бялізну баразьдзілі сонечныя касьнікі і на патрэсканых нагах, дзе ня высахла раньняя раса, блішчэлі круглыя галёнцы. Трыфонавы ўзрокі ганяліся за канцамі дубцоў, але стары калгасьнік знаходзіў час усьміхнуцца сонцу, пацешыцца з адвіслых пад цяжар'ю садовіны крохкіх галінак і прапусьціць учуткі хваляваўшыя яго думкі.

„Люба, аднак, паглядзець, як усё на вачох, з досьціпам ды з стараннасьцю ўладжваецца. На вачох, дзень-ато-дню, во... Гаспадарка прыводзіцца ў дасканалы догляд. Будынкі падрапаваны, сады пападпіраны, забраны ў новую агароджу. Якуратненька зжата жыта і парадкам складзена ў стаўпы... Гавяда ў хлявох на падлозе... Гатуецца ёй добрая ежа... Сям'я, вядома, як пчолы, заварушыцца і гатова... Ну-ж, ну круціся, лазаціна. Т-так, во! як умураваны стаіць. На гады... Вялікая справа колгас! Я не разумею, чаму гэта Рында так доўга вагалася запісвацца. Цудная кабета! Напалохалі, падумаеш! Замучаць, заезьдзяць. Цьфу! Няпрыяцелям трэба. Абыходзіны, во, дзеці рэдка з бацькамі так жывуць... Ну, а рабіць, вядомая рэч, трэба. Колгас-жа не шпіталь... Што зробіш—сабе. Нядужы араць—гарадзі плот; цяжка грасаваць—падполвайградкі, лянок, даглядзь курэй—ці-ж у гэткай, во, гаспадарцы ня хопіць падхадзяшчае работы? Гм! Гэта-ж—толькі зірні навакола, во-а-а!“

Трыхон адхіліўся ад платоў, падагнуўшы дубца пад сук, і разьняў, як мог, выпрастаўшы пальцы, абедзьве рукі. Яго твар трапіў у прагалінку, спрэс асьветленую сонцам і патануў у яго ласкальным чыстым промені.

„Любата і ўцеха! усё-ж наша ды наша, як вокам акінуць! Агульная, родная—толькі даглядай. Скарб ня выбраны. Ого — колгас! Мудрая і цікавая справа! Ну, вядома-ж, супольная думка дайшла да яго—

думка цэлае партыі... Да сьнеданьня загараджу, бадай, усю лунку...“

Ён пацёр далонь аб далонь, плюнуў ды яшчэ раз шаргануў рукамі і хапіўся за дубец. Уся яго ўвага сканцэнтравалася на ўручанай яму працы і стары не заўважыў, як каля яго ачуўся старшыня калгасу, яшчэ малады на выгляд, а ўжо пяцідзесяцігадовы Юрка Малачай.

— Можа ўтаміўся, дзядзька?— запытаў ён у Трыхона Жаролцы.

Той паважна, як-бы несхаця, бо запрыкрыла, адвярнуўся да Юркі і суха адказаў:

— Сьмяіцёся, таварыш? Або мне ўпяршыню за шэсьцьдзесят пяць гадоў? Глядзі, што, ці не ад пана яшчэ аставаліся дасюль гэтыя платы; а бач і я іх гарадзіў... Табе многія пасьведчаць... Прабуйце, мо' скаланяце? Яшчэ пруткасьць у руках ёсьць... А раблю для сябе, для ўсіх—чаго-ж фальшывіць... Уверадзіўся, вот калі, хіба!..

Старшыня пахкаў люльку і разьліваўся ў здавальняючую ўхмылку.

— Так, Трыхон Маркавіч, я ўжо ацаніў вашу працу: вы даяце прыклад усім нашым колгасьнікам... Пачакайце хвілінку, сапачынце... Вось і ўчора, Банэдысяў Юлік вазьмі і адпалі гэткую штуку: я паслаў яго з возам забраць у адрэзках рэштку мэндлікаў жыта, а ён запрог каня, угледзеў Лазараву Тадосю і да поўначы працягаўся за ёю... Каня я сам распрог, а жыта толькі сёньня прывязьлі... Та, думаеце, не пасаромеўся, калі я як належыць упікнуў яго, спаслаўшыся на вас?.. Хлопцу некуды было дзецца і ён доўга ўбачаўся... А, надовечы, во, ехалі мужчыны зябліць, та ніводзін не абмінуў пахваліць дзядзькаву стараннасьць... Ня хлушу!..

Трыхону здалося доўгім чакаць, пакуль Юрка даскажа, і ён абярнуўся да платоў, прасунуўшы руку па дубец.

— Паверыце, таварыш, і размаўляць мне прыемней, калі я варушуся. Час, ведаеце, дарагая рэч... Кожная хвіліна і я абаўю калок... А калкоў яшчэ, во-а!.. Кажаце,— Юлік Банэдысяў,— перадыхнуўшы, працёг ён:— А Ўладзік Рубец? Накідае на воз гной, як мокрае гарыць. А сіла-ж, сіла́ — мур паверне... Не сузнаюць некаторыя... Але нічога, таварыш старшына, гэта часова... часова, забачыце... Усё пераінача́цца... У сям'і не без калекі... Ды сям'я, калі зразумее, што гэта, во, усё яе—заварушыцца... я вам кажу...

Старшыню пазвалі ў канцылярыю: Якаў Булаўка, рахункавод, заблытаўся ў расцэнцы ўчарашняга ворыва. Юрка Малачай пакінуў старога і пасьпяшыў на зоў; але Трыхон ня змоўк выказваць свае разважаньні, пакуль старшыня не апынуўся ў канцылярыі.

„Ды моладзь, часамі, любіць паддурыць... Вядома, рознага выхаваньня бывае... Адно бярэцца— міла глядзець, другое — бясклопатнае... Але вы, таварыш старшыня“...

Стары адвярнуўся і ўгледзеў, што ён адзін: гэта яго ня смуціла: ісьціну ня шкодна ніколі перақазаць і самому сабе.

У Трыхона быў свой дадатны погляд на Юрку Малачая і ён хацеў гэта выказаць за адно, але не пасьпеў. Што-ж, няхай другім разам, не займаючы старшыны іншымі развагамі. Сустрэне і зразу, у вочы. Дарма ўсё—ён чалавек просты...

„Ну, якая пара?“

Трыхон паглядзеў на неба: сонца паднялося над садам і ранешняя вільгаць выпарылася. Дзядзінец заліўся сонцам. З-за аборы паказалася Рында—Трыхонава жонка: яна йшла з поліва—кончыла.

— Трыхон!—пазвала мужа.

— Чаго табе?

— Мо' перакусіць хочаш?

— Зараз сьнеданьне будзе.

Рында пашла на кватэру. Хутка прыгоняць на ранкі каровы, і яна пойдзе даіць. А зараз трэба прыгатаваць ражку... У яе свая праца, вядома... Учора з вечара таварыш

Малачай выпісаў нарад—параіўшыся з старою. Трыхону гэта вядома... Ну, вось, у яго як выйдзецца на сёньні?..

Трыхон зьмераў крокамі цень і праказаў да самога сябе:

„Да сьнеданьня кончу перавіўку, а па сьнеданьні—адвожу пошту".

Ён барджэй завіхнуўся каля платоў і не адхіліўся, калі між яго прайшлі старшыня з рахункаводам.

За тое, праз квадранец пасьля Трыхон не сьцярпеў, каб не правясьці замілаваным узрокам траіх вёрткіх жондэраў, што прыехалі за гаручым.

Адным кіраваў яго сын—Даніла. Трыхон пазваў Данілу да сябе:

— Як аралася, сынку?

— Усё добра.

— Ну, та й добра. Пільнуйся, нябожа, каб было ўсё добра. Ведаеш-жа, гэта ўсё сваё, а сваім трэба даражыць... Ці-ж цябе вучыць, Даніла?

Трыхон кожны раз, як сустракаўся з сынам пасьля работы, спраўляўся пра трактар. Ён ня мог забыць выпадку, калі яшчэ ў першы выезд Даніла папсаваў машыну. Чырвонабокая, бліскучая, люба глядзець, рэзвою вышла яна ў поле, а вярнулася пакалечанай. Ёкнула тады ў Трыхонавым нутры, млосьць разьлілася па целе, і Данілу давялося выслухаць лютую нотацыю ад бацькі... Праўда, пасьля таго выпадку прыкрасьці не паўтарылася. Але Трыхону кожны раз хацелася праверыць сваімі вачыма, якава машына. І ў гэты раз пранозьлівы Трыхонаў узрок пралез ва ўсе шчылінкі і абег усю паверхню ўжо прапрацаванага сынам жондэра. Машына насіла адбітак зацятае працы, але ня згубіла свайго хараства. Трыхон памацаў калёсы, пагладзіў бакоўкі, абышоў навакола яе разоў пяць і аблегчана ўздыхнуў:

„Малайцы трактарыстыя".

І правёў іх, пакуль яны не схаваліся з ваччу. А калі астаўся чуваць адзін іх ляскат, Трыхон вярнуўся да калоў...

Вышла, як у струнку, што першы ўдар у рэльсу, вяшчаўшы пра сьнеданьне, супаў з завязкаю Трыхонам апошняга абаранку. Каб хто быў каля старога, то пачуў-бы, як той радасна ўздыхнуў: нават рэльса забранчэла цішэй.

На сьнеданьне ён ішоў, як з перамогі: лёгка і бадзёра. Напоўніўшы двор, гавяды і авечкі з цікавасьцю праводзілі старога пільнымі ўзрокамі і лагодна мукалі і мэкалі яму паходную.

„Напасьвіліся, малыя, відаць! Жніво, даражэнькія, карыстайцеся", размаўляў Трыхон з гавядаю, не забываючы папярэдзіць пастухоў:

— Вы-ж, адно, памалуй. Няхай чародкаю войдуць у хлявы... Меней ужывайце пугі, а болей ласкаю... Гавяда, як людзі, любіць ласкавасьць...

Пастухі пасьміхоўваліся сабе ў кулак, але не рашаліся сьвістаць дратаванкамі: пугі аставаліся абвітымі наўкола пужальняў. (Можа, як дзед схаваецца ў сталовай, тады і можна будзе хвасянуць).

Але Трыхон не стараўся першым дарвацца да місак, хоць гэта ня было-б грэшна: ён-жа першы вышаў на працу. Ды ці-ж быць такім сухім фармалістым? А ці ня цікава паглядзець на прыгожую карціну працоўнага руху ў колгасным двары?

Выверыць складаную машыну пульсацыі калгаснага жыцьця?

І Трыхон з ганку сталовае наглядаў, як:

Пяцера доек, з яго жонкаю Рындаю, прыкусваючы на хаду, сьпяшылі даіць кароў. Дайніцы і кацялкі барабанілі марш, а вунь, з-пад сьвіронку Міхась Сілыч Смуглы нарыхтаваўся прымаць малако для сырні. З закасанымі рукавамі, лысы і крыху з жывоцікам, ён падганяў доек жартлівымі сказамі.

— Жаночкі-кабеткі, падвіхнецеся на сёньні. Грыбок ужо занадта разбуяў...

— Кінь падганяць, Міхась Сілыч,— ухмыльнуўся старшы пастух, Гаўрыла Якавеня: — няхай ляпей выдаяць.

Пастухі чакалі свае порцыі малака: ім даецца ад першага надою. І Гаўрыла заўсёды выпівае свой літр не працэджаным: яму няма куды зьліваць, і ён ня любіць квасіць. Яму сьмешна, калі яго таварыш часта мяняе сваё на сыр, ці на сьмятану.

— Міхась Сілыч, ці не падгатовілі сырку майму сябруку?

— Кінь, стары блазен, — незадаволіўся Паўлік Прут.

Сырнік засьмяяўся і ўпярэмяжку паглядзеў перш на Трыхона, тады на старшыню калгасу, які затрымаўся каля дыскоўкі.

— Таварыш старшыня, а то-ж з якіх прычын яна засьвяткавала?— запытаў Трыхон, і гэта адвяло ўвагу ад гутаркі пра малочныя прадукты, ад якой Пруту рабілася ня зусім прыемна.

— Захварэла зьлёгку, — адказаў Юрка Трыхону коратка і адрыўна, хочучы не займаць залішня расьцікаўленага старога. „Гэтак ён прастаіць увесь сьнедальны час“.

Але Трыхон тут-жа спахапіўся і ўзяўся за клямку ў дзьвярах: якраз за парогам ён сустрэў гаспадыню і ветліва аддаў ёй „дзендобры“. Хрума Лейкінд папікнула старога ў маруднасьці:

— Каша, дзядзька, прастыла і начыньне карэе.

Або, сапраўды, Жаролца тактакі і займа-здароў збёдаваў час? Адчапіся кабета...

У гэткім напрамку мільганулі ў яго галаве думкі, ды ён адпусьціўся: „Ат, няхай сабе кажа“, і ў голас (чулі на дзядзінцы) адказаў Хруме:

— Сьнеданьне ня прыдзецца выкідаць.

Юрка Малачай адагнуўся ад бараны. Дзвэнгнуўшы кончыкам каўкаскага паяску па блішчастаму дыску, ён паглядзеў убок сырніка: у Смуглага на твары сьвяцілася ўхмылка—напэўна і ён, як і Юрка, ухмыляўся з Трыхонавага сказу.

— Стары...—намерыўся старшыня кінуць кепік на адрас Трыхона Жаролца, але ўчас стрымаўся: з хлява вышла яго жонка Рында з надоеным малаком.

Рынду апанавалі задрамаўшыя было пастухі і адлілі сваю порцыю сырадою.

Гаўрыла Якавеня тут-жа зьдмуў шум сухімі прасмагшымі губамі і засаб выжлукціў такі добрую літроўку; а Паўлік Прут асьцярожліва, навыперадкі з Рындаю накіраваў да Смуглага.

— Пастаў, Паўлік, на паліцы і бяры акрайчык сыру.

— Дзякуй, Міхась Сілыч, дзякуй...

— Які спрытны, на цябе ўсё ліхое.

То вылаялася Рында на пастуха:

— Усюды ён упрэцца першым, да рэчы гэта, ці не.

Але Пруту гэта сталася няўшманкі, і ён задаволеным пашоў туды, куды і яго таварыш Гаўрыла: пад сталовую.

З-за ўзьнятага дойкамі гоману на дзядзінцы нельга было рашчуць пра вошта гутарылі пастухі. Кабеты наўзабой апярэджвалі адна другую, та хвалячы выдаяную карову, та хаячы заўважаныя імі непаладкі ў хляве. Кожная з доек назнарок узмацняла голас, калі раўнялася з старшынёю колгасу і пазірала на яго...

Юрка Малачай не хацеў разводзіць з імі гутаркі, хоць і ня вельмі ўжо быў заняты дыскоўкаю: на ўсё свой час, і кабеты гэту яго „ганарыстасьць“ узьнялі на „іголкі самакрытыкі“. Каб старшыня спадлоб'я кінуў да сырні ўзрокам, напэўна сустрэўся-б з палкімі і пранозьлівымі зіркамі дояк. Але... ён не пашоў на тое, пакуль каля яго не ачуўся Трыхон Жаролца. Стары гладзіў сівую бародку, захмыльваў

левае вока і хваліў сьнеданьне і гаспадыню сталовай.

— Спрытная кабеціна, нечага сказаць... Зварыць—любата. Часамі нішчымнае, а не ад'есьцціся: міску выскрабеш і ложку абліжаш... А іншая-б—адвярнуўся. Рукі ў Хрумы, залатыя рукі... Варыць, як для сябе, а не абы як, на тандэт... Я й кажу, то гаспадыня, калі з малога ўмее выкраіць, а ня тая, што дай ёй гору дабра, а яна ўсё прахам пусьціць... Хрума-ж, ого, Хрума маладзец...

Ён некалькі разоў цмокнуў губамі, аблізаўся і задаволена, сытна ўздыхнуў.

Юрка Малачай падняў галаў і паглядзеў на старога.

— А цяпер — за працу. Пад'еў, нечага грашыць, і мушу працаваць... Адвозіць пошту, таварыш старшыня?

Той хвіліну падумаў і адказаў:

— Не, дзядзька, сёньні адкладзем гэта. Прайдзеце лепш садам; агледзьце агароджу, праверце падпоры... Да абеду хопіць, а там...

Старому гэта палісьціла.

— Добра... А ня то б я з ахвотаю павёз пошту, дарма...

— Адкладзем...

І ўверыўшыся па старшыноваму голасу, што тут нічога хітроўнага да яго няма, ён павярнуўся да саду. Ужо на хаду праказаў:

— Шкада мне гэтых машын: кожная папсаваньне—нажом па сэрцы. Гэткая ўдалася баронка! Ну, але бывае! На тоеж праца і... навука.

— Бывае, дзядзька Трыхон...

Гэтых Юркавых слоў Жаролца ўжо не пачуў: ён скрыпеў вароццамі ў садовай агароджы і заглушыў скрыпам і жончын вокліч. Рында мелася нагнаць мужа, каб перадаць яму некалькі даведак па хаце, ды адлажыла свой намер: старую пазвалі на кухню. Яна з дзьвярэй заглядзела, як яе Трыхон зачыніў вароццы і схаваўся ў саду.

„Чаго-б яму туды?"—пацікавілася Рында, калі Трыхон ужо прыступіў да справы: заняўшы ад ваходу, ён, мацаючы кожны калок у плоце, пашоў насупроць сонцу.

Жоўтыя, новыя калы залаціліся ў цёплым прамяньні, грэючы старога рукі. Было цёпла яму ўсяму, бо сонца з адвесу ліло на яго галаў, на плечы і за пазуху ласкальнае цяпло. Толькі нагам у траве, зацененай каламі, рабілася халадней. І стары цаляў імі паміж калоў, на сонечныя палоскі.

„Люблю сонца, ды годзі", разважаў ён сам з сабою: „А калі яшчэ яно над садам, ды на гэткім харошым, уродным садком! Уцеха!"

Асалоджваючыся сонцам і любуючыся садам, Трыхон не заўважыў, як упёрся ў кут, адкуль ішлі калы ўпоперак. Ён азірнуўся: з-заду яго быў гарод. Стройнымі радкамі, вабраныя шырокімі веярамі зялёнага капуснага лісьця разыходзіліся ўдоўж ды ўпоперак грады. Крыху далей, за першым іх радам, ляжала буйная лунка маку. Большыя і меншыя галоўкі і яшчэ не адцьвіўшыя макавенчыкі лашчылі ўзрокі. Міла было глядзець на разбуяўшы памідорнік з зялёнымі памідорамі; на простакутнік цукровых буракоў, на шэраватую мясьціну бобу, на высокі ў белым цьвецебульбянік. Гародніну абінталяжвалі differently рознаколерныя краскі: вяргіньня, півонь, гвазьдзіка, каронкі. І ў красках, як у вазе, ляжалі зьвісшыя на галінках яблыкі і грушы. Нясло дбайнасьцю і доглядам, клопатам і стараньнем—чаго Трыхон ужо даўно ня бачыў тут і што яго вачыла.

— То ўсё Пiлiп Обад стараецца: дарагі чалавек! Вот ужо рукі дык рукі—пашукаць. Ён табе і гарод дагледзіць, і сад прывядзе да ладу, і сталярку, і механіку ведае... Скарб у адным чалавеку... І, як трэба, Піліп яго не хавае. Для ўсіх, калі ласка... Над гэтым усім трэба дрыжаць, сьцярагчы... Вось чаму павінен быць добры, дасканалы плот... І я люблю, каб было добра і чыста зроблена: што ўмею—раблю на сумленьне... Вво-а!..

Трыхон з задзёрам страсянуў адзін за другім некалькі калкоў і ўголас праказаў:

— Малайцы, стаяць, як лыцары!

— Хто гэта так?

Запыт быў зьнянацкі і нечаканы: Піліп Обад бадай што прамінуў-бы Трыхона не заўважаным, каб не пачуў яго голасу з-за плоту. Але воклiч ня вывеў старога з павольнасьці і з роўнавагі.

— Калы, во!

Трыхонавы ўзрокі апынуліся ў міжкольлі і ляглі на нябрытым шырокім твары Піліпа.

— Ты што?.. Чаму-ж па-за садам, сёньні?

— Сьпяшу ў лес дубка зваліць на клёпкі. Смуглы не адкараскаецца: падгнілі бочкі і чоп... Да рэчы, і ў драбіны з дзесятак лёстак уставіць трэба-б... А дзядзька гародзіць, ці што?

— А чаму-ж-бы не: нагадаваў-жа, браток, усялякага дабра, павінна берагчы... Капуста завіваецца ў галоўкі? Напэўна якая ўжо няпростая, лісьця — парасон ды годзі... Ня ўмесьцяцца на градах... А мак—і выпараў-жа недзе!.. Відаць, як пасьпее, кожная макаўка з добры глячок будзе, га-а? Адно да аднаго, малайчына... Ты для калгасу — скарб, Піліп...

— Дзядзька Трыхон: ну, пэўна, што для калгасу. А то-б я якомукольвечы дзедзічу ці шляхціцуфальбаркоўцу так служыў? Гарэў-бы ён няхай... А калгас—маё ўсё... Я-ж адзін з першых у яго запісаўся, першы пачаў прыводзіць усё ў парадак... І цяпер, здаецца, як радзіўся ў ём... Кожная рэч дорага табе; хварэеш за драбнюткую псуту, за стратак... Мо' запаліце?.. І тутуню, вунь, за бобам, насадзіў лунку—з гэктар будзе... І ўдаўся, няўрокам... Будзем жыць, дзядзька... Супроціў калгасаў нашы ворагі, а зрэдку і гультаі... Партыя мяркуе ня дрэнна... Супольны розум, бачыш... Будучыня за калгасамі, як піць даць...

Піліп Обад падняў к носу ўказны палец і паківаў перад Трыхонам.

— Так што, дзядзька, працуйма з посьпехам...

— За намі ня будзе спынкі, нябожа...

Трыхон сказаў гэта з тым пачуцьцём упэўненасьці, якое ні перад чым не здаецца; яго сілу адчуў і Піліп Обад, крануўшы іці ў сваю дарогу.

— Ведаю, таму і кажу,—падаў ён з адгону пары крокаў.

І калі, прайшоўшы яшчэ сажняў тры, азірнуўся назад, то заўважыў, як Трыхонавы рукі перабіралі калы і ў іх просьвітах дрыжэла белая постаць старога.

„Дбайны стары“, выказаў Піліп сваю думку пра Трыхона Жаролцу.

Гэта было не ўпяршыню, і Трыхон, каб пачуў, ня зьдзівіўся-б: ён ужо яе ведаў. Аднак гутарка з Піліпам, як і заўсёды, уліла яму ў нутро маладое і сьвежае асалоды ды лёгкай бадзёрасьці.

Піліп ужо хаваўся ў аўсянай лагчыне, пры завароце ў лес, калі Трыхон стаў на пальчыках і праз верх карацейшага кала зірнуў яму ў сьлед.

„Памчаўся, як мяцёлка“.

Сказаў і задраў голаў к небу.

Пасьля скасіў вочы і паглядзеў на ўкарочаную цень.

„Зараз абед, а я нешта мала зрабіў“.

Стары заварушыўся і хутка прайшоў да чарговага боку.

Адгэтуль ён убачыў той гліняны ўзгорак, пры канюшынным вучастку, дзе капаліся сілосныя траншэі. Груды пяску і суглінку чырванелі на зялёным фоне. Раз-по-разу вырыналі з ям чорныя палкі з бліскучымі лёзамі жалезьнякоў і чулася стройная маладая песьня.

„Хапіла-б адно цэманту ды дошак... А копка ідзе к часу“... прапусьціў ён у думках і вярнуўся да працы.

Да абеду Трыхон скончыў агляд платоў—яны былі ў парадку, калі

ня лічыць дзьвёх заўважаных мясьцін з шырокімі адгонамі між калкоў. Ён заткнуў іх сухімі галінкамі, каб пасьля заставіць больш грунтоўна, і абгледзеў у некалькіх радох яблынь падпоркі.

Падпоркі былі знарочыстымі, новымі і моцнымі, дасканала і акуратна пастаўленымі. Ніводная з іх не сагнецца пад яблыкамі!

Трыхон спрабаваў іх устойлівасьць і разьліваў ухмылку па твару: падпоркі ён сам высякаў у лесе, сам падбіраў адна да другое па вілаватасьці, вышыні і зграбнасьці, ставілі-ж у дваіх з Піліпам Обадам.

Гэты апошні, як сьмікаліст у садовай гаспадарцы, дыхтаваў старому інструкцыі, а Трыхон падкопваў ямкі, асякаў сучкі, часам акорваў і апускаў на іх яшчэ няцяжкія ралкі. Цяпер, во, калі садовіна патаўсьцела і набралася вагі, падпоркі вельмі добрая рэч. Зьберажэцца кожная дзераўцо ад псуты...

„А дзярэўцы трэба берагчы, бо яны дужа ўдалыя і ўродныя: вось, як вокам скінуць, на кожным ўрадзіла. Мэрам-бы дзярэўцы ішлі на перагонкі, на спаборніцтва, ні адно не асталося з пустацьветам. Водзека радок белых цукровак-папяровак: усе чыстыя, яблычка ў яблычка, бяз плямкі, без чарвячка; побач—антонаўкі, позьнія і яшчэ цьвёрдыя, як арэхі; таксама чыстыя — не наглядзецца; у трэцім радзе—апорты: зялёныя, а ўжо з завадзю чырвані. Сонца грэе і ўвочавідкі павялічвае чырвоную фарбу на пукаценькіх бакох, бліжэй да хвосьцікаў... Сярод яблынь—грушы: спасаўкі і цыганкі, бэры і сапяжанкі... або ўсе сарты пералічыш?"

Старога вочы разьбягаюцца ўдоўж і ўпоперак, па роўных радкох белакомельных купчастых кудравых дзярэўцаў. Садовіна недасьпелая, але пахне мёдам, салодкім і водырным сокам цукру і віна. Цягне прытуліцца да гладкіх шарыкаў, панюхаць, лізнуць языком, палашчыцца. Як вось гэта яны, во, пчолы ды восы, тыя вунь матылькі...

Трыхон ня можа ўтрымацца: праз хвіліну ды пагладзіць цыганку, ці бэру, паважыць галіну і пераходзіць да другога дзярэўца.

„Памятаю-ж, як пан садзіў шчэпы: марыў, нябось, класьці чырвонцы ў сваю тоўстую машну, але пралічыўся. Не спадзяваўся, гад, падганяючы рабочых капаць ямкі за паўрубля ў дзень, што ня дажджэцца яблык есьці. Папаеў, прахвост, за чужыя грошы ўсякіх ласашчаў. Годзе! Бач, як бег у 20 годзе, пасьля наведаў пры палякох: гляне-гляне і толькі скрывіцца ад жаху... Пасьля дабро дасталося другім дармаедам-арандатарам Канаўскім. Высcалі сокі з нашых людзей і гэты шляхецкія п'яўкі. Выціскалі золата з кожнага дзярэўца. Ізноў годзе! Даволі!.. Нарэшце зьявіўся сапраўдны гаспадар—калгас. Дабро апынулася ў колектыўных руках... Вось яно—перад намі... Ці-ж я думаў калі, што буду хадзіць па гэтым садзе, як па сваім?"

Думкі віраваліся ў Трыхонавай галаве, абуджаючы далёкія і нядаўныя ўспаміны. Колькі пережылося і аб чым толькі няма ўспомніць? Памятна яму, як закідаліся ў сэрца крохкія ды нясьмелыя мары пра лепшую будучыню і як гэты мары бязьлітасна тапталіся горкай сапраўднасьцю. Міналіся доўгія, бядовыя гады, адзін за другі цяжэйшыя, а лепшае ўцякала. Яго паказаў 905 год, ды схаваў. Схаваў, адцягнуўшы ажно на цэлых дванаццаць год. Цяпер мінулае—гэта сон, цяжкі і адваротлівы. Здань, якая зьнікла ў бяздоньні... Яў—харашэйшая за мары, якія цешылі ў трудныя хвіліны... Вось тут, во, дзе зараз разгартаецца калгаснае поле, за платамі саду і далей, за паплавамі, за лесам—тупалі-пературалі Трыхонавы ногі: пасьвіў панскі статак; праз некі час араў пану і на пана касіў; капаў канавы і студні, гліну на цэглу і ямкі для шчэпаў, вось, мо' тут нават, дзе зараз ногі адчуваюць пад сабою цьвёрды грунт, калгасную зямлю...

Паліваў глебу потам і сьлязамі, а калі ўзьбіўся на свой ашматак поля і пакінуў хадзіць у двор, то пан штрафаваў яго за паднятую ў лесе заплiску, за мех нажатае травы, за кузаб ягад, назьбіраных Данілам ці Алесяю—дзяцьмі... Пан быў для яго, для ўсяе беднае вёскі, страшнаю пагрозаю, насланым нечым, караю, ад якое гадамі нельга было вылечыцца... Ах, Трыхон праз меру застаяўся каля гэтай сапяжанкі! „На дзіва! Яшчэ столькі абгляду!"

Стары затрапятаўся, замахаў рукамі і сплюнуў: ці-ж ня хопіць часу перабраць успамінаў?

Але за сьвіронкамі, на дзядзінцу пачалі біць у рэльсу: абед. Гучны, зьвінюшчы стук раскалыхваў ціхае спакойнае паветра і разьбегаўся далёка навакола; ён шумеў па лісьцях саду і біў старому ў вушы ды адгукваўся за платамі там, дзе пяюць пры копцы сілосных ям, куды схаваўся Піліп Обад, за аўсянаю лагчынаю, над лопатам трох нястомных жондэраў.

Абед!

Сонца на куту, над пшаніцаю, над сагнутымі сьпінамі жанцоў, над цяжкімі, разьлёгшымі прастом снапамі.

Абед!

Трыхон азірнуўся навакола і рушыў сьцяжынкаю да выйсьця з саду.

Апошні стук у рэльсу расплыўся ў прасторы і замёр: на момант стала ціха-ціха, як на могілках. Пасьля гукі і зыкі аднавіліся: на дзядзінцы ішла гутарка: гаманілі на сьценцы за садам. Хтосьці зваў некага на другі бок калгасных будынкаў. Адтуль, дзе жалі пшаніцу, пачуліся песьні: яны зьліваліся з грукатам калёс і з выцінаньнямі пастуховай трубы-берасьцянкі. Втуравалі жондэры: іх лопат цягнуўся выкручастаю палосаю ўбок калгасных будынкаў, мяняючы ноты.

Трыхон ішоў ціха, але яму таксама хацелася пяяць, ці гукаць, ці падскакаць ад абуяўшага яго пачуцьця ўздыму і бадзёрасьці, якія доўгімі гадамі яму былі чужы і незнаёмы. Ня верачы сабе, стары злажыў падсохлыя, сіняватыя губы і высьвістаў даўно забытую мэлёдыю. Гэта прышлося пры самых вароццах, за якімі стаяў Юрка Малачай з Міхасём Смуглым.

Яны перарвалі гутарку пра сырныя справы, для якіх Смуглы адцягнуў старшынову ўвагу, і абое азірнуліся на сьвіст. Няўжо-то Трыхонаў выбрык? Нiводзін не паверыў—ці-ж ім хваліцца.

— Добра, таварыш старшына: усё ў парадку, дагледжана,—пахваліўся Трыхон Юрку Малачаю. І ня дачакаўшыся адказу, дадаў:—У пору зрабілі падпоры—дзерава прысядае ад нагрузкі: няўрокам урод—дай божа штогодня, але ня ломіцца. Люба! Ня хочацца выходзіць з саду. Я вам кажу, таварыш старшына... Ёсьць парода яблык, вялічынёю ня ўступіць вашым сырам, Міхась Сілыч...

— Так, з садам у нас добра. Каб гэтак на ўсіх вучастках было...

Юрка Малачай паглядзеў на Смуглага, даўшы яму зразумець, што з сырняю справа стаіць горай, ніж з садам.

Сырнік пацяў плячыма і мусеў згадзіцца з старшынёю калгасу.

— Харошы сад, бо харошы дагляд... Піліп Обад, дзядзька Жаролца...

Іх перабілі ўехаўшыя на дзядзінец трактары. Юрка пакінуў Смуглага з Трыхонам і пашоў да трактарыстых, пытаючыся на хаду:

— Яшчэ многа асталося зябліць?

Адказваў Даніла:

— Гектараў з дзесяць,—і пазіраў на бацьку.

Стары ўміляўся сыну, забыўшыся пра абед і пра сырніка.

Яму дапомніла Хрума Лейкінд:

— Таварышы! Першая разьліта! Не затрымлівайце другіх! Дзядзька Трыхон! Таварыш Смуглы!

Але Жаролца пашоў заднім — за сынам, за жанкамі, што хлынулі гурбою з-пад аборы, рэзвыя, як сарокі і сакатлівыя, як квактухі.

У іх здаровым, расьпеўчатым гомане зьвінелі сярпы і косы ды шалясьцела пшаніца...

— Жаночкі, дзяўчаткі... Гускі вы крыклівыя...—сказаў стары Трыхон пра сябе, калі жанкі ўлілі прынесенае хараство жніва ў цёмны простакутнік адчыненых дзьвярэй у сталовай.

Памяшканьне прыглушыла гаману, але і ў сталовай ня было ціха. Усядаліся пазастольлю: перамаўляліся і стукалі заслонамі, бразгалі пасудаю. Потым, нечакана для Трыхона і для многіх, двое хлопцаў уголас падалі скаргу на неспанраўную ім страву. Вядомы мудрагэль Юлік Банэдысяў праказаў:

— Цягай днямі плуг, а прыдзецца зьесьці—памыі.

— Яго падтрымаў Уладзік Рубец.

— І раз-за-разам!

Абодва сказы павісьлі ў паветры: зразу ніхто не адгукнуўся. У іх празычэла наяўная хлусьня, дарэмшчына, распуства.

— Грэшыце, небажаты, — праз некі час сказаў Трыхон, як адсекшы сякераю: — Грэшыце! Разбазыралі, хлопцы! Можа вам выпісаць асобнага кухара, захочацё? Ды асобна варыць папросіце? Брыдка! Гэткі абед, аж люба, а яны... што вы вельмі елі да калгасу, цікава?

— Вы-б маўчалі, дзядзька! — агрызнуўся Рубец.

— Ня ўзьлюбіў праўды? Га?

— Напрацаваўся вельмі, заўторылі Трыхону.

— Узараў, пэўна, з паўганоў, а колькі гонару!

Калючыя, упічлівыя сказы несьліся да прывярэднікаў з усіх канцоў застольля, перасушваючы іх языкі. Працягаць агрызацца было немагчыма: ім ніхто не спачуваў. Прывярэднікі натужліва канчалі абед, як без'языкія. А Трыхон еў і хваліў, хваліў і дзякаваў гаспадыні:

— Я бяруся сьцьверджаць, што ніхто, апроч Юліка з таварышом, не астаўся нездаволеным абедам,—казаў ён, ужо вылезшы з-за стала і прапускаючы між сябе паабедаўшых.

Прыабедзены выпадак не пацягнуў доўгіх гутарак: ужо за парогам сталовае пра яго многія забылі. Даўжэй усіх помнілі тыя, хто быў віноўнікам гэтага: Банэдысяў Юлік ды Уладзік Рубец. Прылёгшы адпачываць, яны ўсё яшчэ прыслухоўваліся, ці хто не ўспамінае іх прозьвішчаў.

Каб абышлося ціха, абое першымі выехалі на працу, памятаючы Трыхонаў адказ. Хаця-б ня стрэцца з старым!..

Ды не пра гэта думаў Жаролца: ён ня прывык аддаваць на адпачынак увесь абедзены перапын: на дзядзінцы было ціха, калі ён з гаспадарскім клопатам падабраў гной, склаў рассунутыя дровы пад страхою аборы і шчыльней да сьцяны прыставіў пару драбін, каб у дождж ня мoклі. Надовечы стары мімаходзь заўважыў пакудлачаную салому ў хлявушковай страсе і прайшоўся праверыць: небясьпечна ва многіх выпадках; ён вярнуўся, выбраў плашку і часова прылажыў на няўладнае месца. Пасьля ён пасьпеў яшчэ зьмяніць паламаны абаранак у вешніцах на пагон: прысеў і скруціў у некалькі столак правяўшы дубовы дубец і ўзьдзеў на шула.

За ім тупала некалькі дзецянят карапузаў: Смуглага сын, замурзаны ў пяску, з ільнянымі доўгімі валасамі і без сарочкі; Хрумы Лейкінд малы, чорны з твару як цыган, з разадранаю амаль наскрозь калошаю ў портках; ды яшчэ рахункаводаў Анціпка, дробны-дробны, косы вочкамі і заўсёды з высалапленым кончыкам ячычка. Дзеці закідалі Трыхона процьмаю пытаньняў і цікавіліся як яго сьмяшлівымі і павучальнымі адказамі, гэтак і яго працаю.

Зразумела, што Жаролцу было няўцям, калі мудрагэлі-хлопцы праехалі паўз сьвіронкі на поле.

Але ён быў зацікаўленай сьведкаю далейшага ўшчынку пасьляабедзенай працы: прайшло ў пагон, да

пшанічнага поля некалькі гаманлівых жанок—Трыхон з імі перакінуўся сказамі; бразнуў дзьвярымі ў сырні поўны лысы Міхась Смуглы—Трыхон не абмінуў сказаць некалькі слоў. А толькі трактарыстыя ачуліся пры жондэрах, як стары апынуўся побач: ён глядзеў на свайго Данілу, на яго дасьціпнае нарыхтаваньне машыны і цешыўся сынавай ёмкасьці і спрыту; бачыў, таксама, як і другія трактарысты ўвіхаліся з трактарамі — хлопцы не адставалі ад яго Данілы, але апошні, здавалася Трыхону, быў рухавей і пракідзісьцей ад сваіх таварышоў. Мо' за тым ён папярадзе і пусьціў свайго жондэра! Праўда, у хадзе машын, толькі пачуўся іх лопат, Трыхон загубіў нядаўнюю развагу, а ласкаў настрой любаваньнем жалезных коняй. Хоць-бы яны езьдзілі перад яго вачмі бесьперасьціханку—Трыхон усё-б глядзеў на іх ды цешыўся.

„Гэткія ўдалыя машыны! І так спора ды хутка яны спраўляюцца з паханьню! Вот ужо цікава, да чаго толькі людзі не дадумаюцца! Зрабілі калгасы, раськідалі межы і знашлася магчымасьць пусьціць у работу гэткія складаныя машыны, як трактары, сеялкі, жняяркі, а то, кажуць, прывязуць і комбайны! Эх бы, паглядзець яшчэ тых!.. Ну, калі кажуць, то прывязуць, бо ўжо іх бачылі ў Крэмаўскім саўгасе. Ці-ж не завідліва цяперака жыць?“

Трыхон памахаў рукою ў бок заехаўшым за аборы трактарыстым і абярнуўся шукаць старшыню калгасу: Юрка Малачай якраз выходзіў з дзьвярэй канцылярыі. Стары пашоў насустрач і пераняў яго на ўзроўні з вароццамі ў сад.

— Вы зьбіраецеся кудысьці, таварыш старшыня?

— Маюся праехацца ў раён.

— Па справах?

— Пэўна.

— Так, іх многа, абы хацеў чалавек працаваць. Гаспадарка не абы якая... Ну, вось, я скончу ў садзе і тады?

— Адпачыняце, крыху: колькі там часу астанецца.

— Не хачу: або я не магу працаваць ці што? Навошта мне гэта. Калгас ня шпіталь, а я не калека. Працуем на сябе, на дзяржаву, чаго-ж марнаваць час. Не-э, таварыш старшыня, я прашу дагрузкі на ўвесь дзень.

Юрка Малачай падумаў крыху, памяркаваў, як і што, і сказаў:

— Та добра, дзядзька, пройдзеце аўсоў паглядзець, а мо' хутка'жаць можна пачынаць...

— Добра, з ахвотаю...

Гэты Трыхонавы словы нагналі старшыню амаль не каля сырні: яны тут-жа згубіліся ў гушчыні разгойданых у яго галаве плянаў, меркаваньняў, рашчотаў. Але постаць Жаролцы мігалася ў Юркавым ваччу, і ён міжвольна азірнуўся на старога: тойваходзіў у сад, ныраючы з белаю сарочкаю ў зеляні. У адну хвіліну: Юрка ўзяўся за клямку дзьвярэй у сырні, а Трыхон за падпорку пад усыпанай яблыкамі апортай.

На дубовай абчэсанай разгаціне ляжала важкая галіна з рыжовабокімі яблыкамі. З боку бялелі папяроўкі, а наперадзе — грушы бэры... Але не для змарнаваньня часу стары зайшоў у сад: яшчэ сотні дзярэў трэба абыйсьці і праверыць падпоркі, абглядзець садавіну. А там—доўгі маршрут у яравы палетак.

— Вы ўсё яшчэ, дзядзька, тут?

То пытаў Піліп Обад, накіроўваючы да агароду.

— Бачыш, Піліп, як мы ўладавалі—мэрам-бы ўмуравалі. Во-а!.. А яблыкі ды грушы—чыстыя дзіва!

На Обадавым твары расплылася ўхмылка: Трыхонавы словыяму лісьцілі.

— Добрае лета, нечага сказаць...

— І лета і садоўнік...

Жаролца зацягнуўся ў пахвальбу Піліпа і збочыў ад намеранага парадку: яны прайшлі пару сажняў



напрасьцяк. І калі гэта было заўважана старым, ён прыпыніўся, пастаяў момант, гледзючы ў сьлед Піліпу, і павярнуў назад.

Праз пару гадзін ён абышоў рэшту саду. „Усё чын-чынам“,— заключыў стары і вышаў на дзядзінец.

На поле рашыў іці па сьлядох трактароў, пагонам. Паглядзець аўсоў—было мала. Ужо гаворучы пра гэта з Юркам Малачаям Трыхон меркаваў захапіць аглядам і папар, і пшанічны палетак, і атаўныя паплавы. Калі абглядаць, дык як гаспадару—усё-усё...

Да рэчы, Жаролцу каля тыдню не даводзілася быць на ўзьмежных канцох калгасных палеткаў. Та пошта, та сад, та дробная работа пры будынках—аднялі ўсе гэты дні. На полі, ясна, зрабілася значная перамена—цікава падзівіцца...

Вунь, ужо відаць, толькі асталіся пазадзе будынкі. На гародах усё пасталела: патаўсьцелі макаўкі, падсохла гічка на моркаві, паказваюць жоўтыя і паласатыя ілбы тоўстабокія гарбузы і буяе брушкавеньне, цяўе, бульбянік. За гародамі жаўцее лён. Доўгая палоса яго губіцца за ня высокім узгрудкам. Частка яго пойдзе дзяржаве па кантрактацыі, частка астанецца для пражы ў зімнія вечары калгасьніцам. Лён скарасьпелы, кудрасты і густы. Тоўстыя, поўныя гарашынкі пахіліліся да зямлі і шамацяць ад цішэйшага павею ветру.

Над полкаю ільну старанна працавала Рында, Трыхонава жонка. Старая з умільнасьцю ўходжвала каля кожнага каліва, перабірала яго, як дзяўчына косы. Вучыла дзяўчат, як трэба палоць, каб не пашкодзіць расьліне. Кожны раз, прыходзячы з поля, Рында прыносіла шчырую ўцеху з харошага лянку. „Тыдзень, другі і трэба будзе выбіраць“, заключыў Трыхон.

„Вось там, дзе ўжо падкошана пляміна атавы для коні, будзе сьлішча: нізіна, ровень. Уляжацца ўвесь гэты лён. Тут засеецца жыта і пастухом наківаць, каб ні паткнуліся ў гэты бок. Пашы хопіць бяз гэтага: вялікія гектары іржышча, пакошы, лесу. Прыйдуць замаразкі—маладняк можна будзе паласаваць руньню, сьлішчам. Во-а!..“

Трыхон абгарнуў рукамі, як захапіць, чорны ўзораны прастор і засьмяяўся...

Трактары!

Адзін за другім яны вынырнулі з лагчыны і накіравалі праўцом на яго. З перапевамі, з разьвесістымі ўстужкамі сіняга дымку. Чорнымі камякамі каціліся яны не пратоптаною дарогаю, пракладаючы засаб дзевяць глыбокіх баразён. Управа ад іх тканінаю разьляглося сьвежае ворыва: доўгімі ніткамі лёгкія разоркі, чорная зямля мясьцінамі падсыпана белаватым глеем, мясьцінамі жоўценькім пяском. Заўтра-пазаўтра пройдуць сюдэю бліскучыя дыскоўкі і дэсэні зьменяцца: тканіна стане танчэйшаю... Пасьля, к канцу жніўня пачнецца сяўба...

Поле, як фабрыка: кожын працэс зьвязаны з другім. Абы лад — усё пойдзе бесьперабойна, ланцугом... як машына, складаная і вялікая машына. Калёса і шрубкі, шасьцярні і прыводы, валікі і поршні. Тутака, во, зяб, а побач яшчэ жніво. Жоўтая, ядраная пшаніца. Ня скінуць вакол палетку. Бяз меж і без агароджы. Роўная ўсюды. Няма грызьні памежнікаў і зьнікшы розьніца паміж шырокімі, угноенымі палосамі кулачча і мізэрнымі, з рэдкім збожжам, касьнікамі бядняцкіх нівак. Пад пшаніцу аралі трактары і баранавалі дыскоўкі, сеялі машыновыя сеялкі, і таму пшаніца ўдалася на славу. Каласы тыя, як у какарузе ды годзі, а зерняты—боб. Трэба кожнае каліва шанаваць!

Трыхона цягнула да сябе пшанічнае поле і не адпускалі трактары. Жондэры мілосна заводзілі сваю аднастайную жалезную песьню, а ім чатэрмя крыламі махала жняярка. За жняяркаю, вяжучы снапы, ішло

чэцьвера жанок. Да дзесятку іх таварышак жалі занятую палосу сярпамі. Сагнутыя сьпіны ляжалі мастом, толькі рукі выкідалі пукамі залатую, цяжкую пшаніцу, прастуючы яе па-за сабою.

Трыхон Жаролца ішоў у гэткай паставе, каб не губіць з вачу трактараў і бачыць жняцоў ды жняярку. Ён дваіўся: паловаю істоты аставаўся на мяккай ралі зябу, другою лыгаўся з пшанічным палеткам.

Пасьля, адышоўшы далей ад ворыва, стары аддаў усю ўвагу жніву: за жняяркаю было ня зусім чыста: валяліся непадабраныя каласы, тырчэлі тыя, якіх нажы не маглі захапіць па ўзросту. Трыхон паківаў галавою і паспрабаваў падбіраць: спорна, варта аддаць часу—праца карысная; за некалькі хвілін у яго стала поўная жменя пшаніцы, аж адцягвае руку.

— Жаначкі, небажаткі! Вы прайдзеце пасьля і падбярэце. Навошта, каб гінула наша... і ваша... агульнае дабро. Кожны сноп — дзежка блінцоў, мае сакатушкі. Во-а!..

— А як-жа, дзядзька Трыхон, падбяром, зразумела.

У жняцоў было чысьцей, але намнога марудней. Трыхон аддаваў перавагу машыне. Куды раўняцца людзкой працы з працаю машыннай! Ён многа папаараў на сваім вяку—усё болей на пана, і ведае, як цяжка гэта работа. З машынаю, мэрам пісаць: усяго астаецца зьвязаць ды падабраць паламаныя каласы. А паглядзець, як шпарка, града за градою зжынаецца збожжа. Толькі Трыхон падышоў, а жняярка зрабіла ўжо тры абходы.

— Колькі, бок, навязалі, жанкі, з маім прыходам? Будзе коп пару?

Трыхон бачыў на прыкід, што болей, але ён запытаў з маленькімі хітрыкамі.

— Што вы, дзядзька, і ў тры ня ўбераце!

„Падумаць, як хутка! Дзён пяць, і пшаніца быццам і не расла. Астанецца ярына... Жніва, няўрокам, многа, хоць ярына і ня зусім удалася. Праўда, не ўся яна роўна: вось ад поплаву аўсы не благія: густая тоўстая салома і тоўстае зярнё. Вышэй—іначай. Тое-ж самае і з ячмянём".

Трыхон сышоў з пшанічнага іржышча і абагнуў пшаніцу поплавам: яе палетак межаваў з ячменным.

Тое-ж золата на доўгія гоні ўдаўжкі і шыркі.

Адкуль у сонца столькі цяплыні, каб высьпеяць гэты ячмень ды аўсы! Колькі пралілося на іх залатога праменьня!

„Так, будзе сёньняшняя пагода, хутка можна пачынаць жаць. Сьледам за пшаніцаю", вырашыў напрактыкаваны гаспадар, Трыхон Жаролца і кінуў узрокам на неба.

Неба было чыстым—ні хмурынкі. Белаватае над лесам, угары яно сінела бяздоннаю глыбынёю. На захадзе загарвалася чырвоным праменем. Сонца большала і мяняла колер: з белага рабілася падчырвоненым, халаднейшым.

Дробная Трыхонава фігура пускала ад сябе багатырскую, волатную цень. Якая пара? Можна было вымераць час па кроках, але Трыхон акрэсьліваў яго без вялікіх прашчотаў на вока.

„Блізіцца да дзевятай гадзіны". Пакуль ён дойдзе да ператочнай сьценкі, пара будзе варочацца ў калгас: там яшчэ іці добрых васьмёра ганоў.

Але ён не пакіне без агляду паплавоў. Тым болей, што вуньдзека, каля лесу, відаць, аднаасобнікі прыпасваюць на атаве. Нядобра гэта, дручане.

Трыхона мэрам-бы хто падагнаў—ён уподбежкі, нацянькі, пашоў напрамкам да дручанскіх пастухоў. Шкада было таптаць кудравы дзяцельнік і маладыя смактушкі, ды там спасуць болей, калі ён не папярэдзіць.

Жаролца прайшоў да мейсца, з якога, па ягонаму, маглі пачуць яго голас.

— Хло-оп-цы-і! Г-гэ-а-э, хло-о-пцы-і! Адвярне-эце каро-аў! Нядо-а-бра-а спасваць атаву! Чу-у-яце-э? Блага будзе-а, калі не паслуха-я-це-э! Па-астуш-кі-ы, га-аг!

Перш у яго голасе пераважала просьба і дарада, адаля ўкралася павяленьне. Каліж Трыхон пачуў юнацкі сьмех, та прыняў гэта за няўвагу да сябе і да калгасу, нават за абразу і ўжо на ноту гучней закрычаў:

— Гэ-эх, на в-вас цу-а-раха-а! Пацвільвацца ўзду-у-мма-лі! Чарцяня-а-аты паскудны-і! Ду-убца-а захацелі-ы? Выпасьціліся-а? Зганяйця-а, распусьнікі-ы! Прэ-эч!

Трыхону давялося зрабіць яшчэ некалькі крокаў і выкарыстаць вопыт пагрозы дубцом на непаслушных: ён затрос у паветры доўгаю папруцінай, да рэчы знойдзенай пад ліпавым кустом.

Пастушкі адвярнулі кароў і падаліся на дручанскія палеткі.

Жаролца ажно ўхмыльнуўся.

„А дзівакі людзі,—пусьціў ён на адрас сваіх ранейшых аднавяскоўцаў:—і чаго яны марудзяць з запісам у калгас. Трымаюцца за аднаасобнасьць, як дзіця за мацярыну спадніцу і нечага чакаюць. Чаго-б, запытаў у іх, і самі не адкажуць. Дурныя ў людзей маралы: хоць бяда да свая. Нікуды не гадзіцца! І бачацьжа, цудныя, што тут, у калгасе, і што ў сябе—непараўнальная розьніца. Вунь іх пастаўнікі, вось калгасны: сьляпы не адрозьніць. А збожа якаво іхняе, а... Дзівакі людзі ды годзі! Таго не разумеюць, што кожны дзень адтэрмінаваньня з запісам—сабе на шкоду. Прыпомніце!..“

Трыхон матнуў папруцінай, праўда, ужо не з пагрозай, а з сяброўскім дапамінкам і павярнуў назад.

Ён хутка апынуўся на ператочнай сьценцы: яна выходзіла з калгаснае дубровы, якая ўжо затуляла сабою сонца.

Пры густой цёмнай сьцяне кудравых дубкоў і асін паднімаўся сіваваты лунь. Пры зямлі, кранаючы ніжэйшых ралак, лунь няўпрыкмет пашыраў свае пялёнкі, заходзячы ў вузкую завіліну між яравых палеткаў. За ўзгрудкам схаваліся трактары, жняярка і жанцы. Але іх знаёмыя гукі і лопат даходзілі да Трыхонавага вуха.

„Ці-ж даўно тое самае было і са мною: баюся ды ўсё пайсьці запісацца. Нарэшце, як-бы хто мяшок з галавы зьняў. Кожны чакае свайго моманту“, дакончыў ён ранейшыя раздумы.

Трыхон вышаў да сілосных ям: чатыры глыбокіх студні зьбіраліся паглынуць у сябе вялікія вазы канюшыны, гародніны і спэцыяльных расьлін. У сьвіронку, каля сырні, чакаюць урочнага часу, калі іх заварушаць, поўныя мяшкі солі. „Толькі-б яквуратна ўладаваць ямы; цэмантам абмазаць або шчыльненька дошкамі атынкаваць, вымясьці пясок... А мейсца, трэба сказаць, добрая: гара, суха; пясок, як выветраны порах.

Ён загроб у жменю з бліжэйшае кучы, разгледзеў, мэрам шукаючы золата, і прасееў увесь скрозь пальцаў. Пасьля абышоў наўкола пяшчаных куч, паглядзеў і заключыў:

„Не забылі-б хлопцы выкапаць рундучкі, каб адвесьці ваду. Гэтай, здаецца, драбязы не заўважалі былі летась у Крывяцкім саўхозе і — пшык! — і ўвесь сілас прапаў за няма нішто. Падцёк—недагляд...

З гэтымі думкамі Трыхон дайшоў да дзядзінцу калгасу і намерыўся іх выказаць кожнаму, каго-б ня стрэў. Трэба ўсё рабіць загадзе — Жаролцава правіла.

Але яму не ўдалося ні з кім абмяняцца: на дзядзінцу, супроць сьвіронка, ён першымі ўгледзіў купку незнаёмых людзей. Яны стаялі да яго сьпінамі і, зразумела, цяжка было дагадацца, хто гэта такія. Да рэчы, людзі чамусьці маўчалі. Тым болей зарупела Трыхону пацікавіцца, хто гэта і чаго яны вечарам трапілі ў калгас.

Стары праўцом, адкідаючы ўсялякую няёмкасьць, пашоў да людзей і яшчэ за сажань прывітаўся:

— Добры вечар, мужчыны.

Яго гучны з маленькім трупцяком голас быў знаёмы кожнаму ў колгасе: за паўтара гады да яго прывыклі. Зразумела, што тыя, хто меў з ім справу больш сарака гадоў, ня мог ня адвярнуцца да Трыхона на першай-жа ноце пачутага голасу. То былі дручане: Прахор Саладуха, ЯкаўКівок, Ігнат Застрамка, Палікар Вушак і Хвёдар Коўш—Жаролцавы ранейшыя суседзі.

— Га-а, добры вечар, сусед!

— У отведы, мужчыны?

— Чаго-ж добрага суседа забываць.

— Дзякую за спрыяльныя намеры. Хоць раз у паўгода. А то бо' мэрам загневаліся на калгас. Мала што, хто раней пракакаўся ў пераважнасьці яго над паасобнікамі, хто пазьней... Але-ж суйздром замаўляцца—ніколі ня трэба... Памойму, той памыляецца, хто марудзіць з гэтым, а бач, ёсьць і гэткія, што нацкоўваюць на калгасы. То, зразумела, невялікія нашы прыяцелі, то кулаччо, нашы ворагі...

— Ды мы ўжо гэта ведаем, Трыхон Маркавіч. Пераканаліся, куды пахільваць. Што-ж, была одур, блаж у галаве і год прамарнавалі ў паасобку...

Казаў Прахор Саладуха, а тыя, што з ім, выказвалі сваю згоду з яго думкамі няспынным ківаньнем галавы.

— Цяпер адумаліся: плюнулі на ўсе іншыя развалажаньні і прышлі... з заявамі прышлі...

Трыхон вырачыў вочы і затрос сіваю бародкаю: пачуцьцё здавальненьня, як электрычным цёкам, прайшло па ўсёй яго істоце.

— Чаго-ж маўчыце, мужчыны? Давайце-э...

З саду выбег Юрка Малачай і паспешна накіраваў у канцылярыю.

— Таварыш старшыня! — гукнуў Трыхон, але Юрка ўжо быў у дзьверах. На вокліч высунуў галаў з вакна канцылярыі Якаў Булаўка.

— Пойдзем мужчыны... Сьмялей!.. Досыць вагацца!..

Трыхон вышаў наперад.

— Мужчыны! — паддакнуў ён ды крануў іх пярэднім.

Дручане цьвёрдымі ўверанымі крокамі пашлі за Трыхонам, вымаючы з кішэнь сьвежа напісаныя заявы...

З-за аборы выглядала чырвоная пляміна неба, на якой толькі-толькі сядзела сонца—

Кропка ў кропку гэткае, як ад ранку, калі Трыхон Жаролца з тым-жа натхненьнем, з якім вёў сялян на запіс у калгас, ішоў загароджваць платы ў садзе.

Менск, 23/IX-31

Міхась Чарот

Пасьвячаю маім землякам-калгасьнікам

## КАЛГАС „БЯЗБОЖНІК“

Мой бацька, дзед,
Ну, ясна й прадзед,
Жылі заўжды
Ў бядзе, нудзе...
Ліхое мейсца
Там празвалі,
Чамусьці, вёскаю
Рудзенск.

Пра лёс цяжкі свой,
Пра бядоту,
Бывала ім
Пагаманіць з кім?
Дзяры лазу,
Сушы балота,
Каб добра жыў
Пан Гаманіцкі.

І ўсё на пана,
На падпанка,—
Працуй на іх,
І іх ты чэствуй...
Парогі бі,
Ці стой для ганку
У Ніціеўскіх,
Янішэўскіх.

А чуць—чуць што—
Вураднік, стражнік,—
Яны ім služкі,
Іх падпора...
Было мінулае
Так страшна,
Ды згінула
Бяда і гора.

Вас, землякі мае,
Вітаю!
І ад сябе
І фабрык Менску,
Што жах тых дзён,
Як сьнег растаў ён
І што няма цяпер
Рудзенску!

Прастор палёў, лясы—
Усё ваша.
Чым меней межаў—
Болей збожжа.
Ня чутна слоў:
„Ягомасьць“! „вашаць!“...
Жыве інакш
Калгас „Бязбожнік“.

Я ведаю—
Бывае крута:
Ня ўсё ў ладу,
А працы многа...
Затое кожны з вас
Раскуты
І вернаю ідзе
Дарогай.

Ня мейсца гультаям
Ў калгасе
І хто псуе
Усю вашу справу...
Ня бойцеся,
Што цяжка часам,—
Чакае росквіт вас
І слава.

І дзень і час
Вам шчасьце сее,
Дзе гаравалі ўсе
Вякамі...
Ніхто цяпер
Вас не пасьмее
Назваць
„Дурнымі мужыкамі“.

Ў саюзе будзь
З рабочай клясай,—
Усіх і ўсё
Падужаць зможам...
Таварышы!
Вітаю вас я
І ваш калгас—
Калгас „Бязбожнік“!

9/X-31 г.

ікам-

Янка Купала

## НОВАЯ ВОСЕНЬ

Пановаму восень палеткі
Абходзіць, глядзіць гаспадаркі...
Пашлі аддыхаць пад паветкі,
Згуляўшы дажынкі, жнівяркі.

Закаўкалі каўкі на ўзвышшы,
Затрэслася лісьце ў гушчарні...
Цапы на сяле заглушыўшы,
Бушуе камбайн-малатарня.

Даўжэй цень кладзецца ад хатаў,
Цяжаюцца пульхна папары...
Адборныя жыта зярняты
Саджае сяўнік у гэктары.

Віхор па кустох, па галінах
З усходу пагульвае сьвежы...
Дабром папаўняе спажыўным
Сячкарня сілосныя вежы.

У вырай сабраліся гусі
І жораў азваўся пад небам...
Плывуць па шляхох Беларусі
Абозы чырвоныя з хлебам.

Асеньняе сонца спакойна
Ў прасторах нямых пахаджае...
Гуляе пад сьцягам чырвоным
Калгаснае сьвята ўраджаю.

**Андрэй Барсукоў**

*
*   *

Гэй вы коні!
Сігайце сьмела!
Сып жняярка
Сталёвы трэск!
Бачце калькі
Аўсоў пасьпелых—
Ударна зжаць нам
Сягоньня трэ!..
Вось таму
І сугучна песьня
Гулу працы,
Маіх машын,
Песьня ўзносіцца
Ў паднябесьсе
І трывожыць
Палёў цішынь...

Загартована
Моцна цела
Творчым запалам
Бушуе кроў,
Я з юнацкай
Адвагай сьмелай
Выяжджаю
На шыр палёў...
Но! Вы коні
Сігайце сьмела!
Сып жняярка
Сталёвы трэск
Бачце калькі
Аўсоў пасьпелых
Ударна зжаць нам
Сягоньня трэ!

30 верасьня 1931 г.
в. Прывольле, Ржаўскі с/с.

Сымон Баранавых

## МУРАВЕЙНІКІ

(Урывак з аповасьці—„Два канцы“)

VI.

Дарога, што злучае Муравейнікі з Бярчукамі, лічыцца за тры кілёмэтры. Ніхто яе меркаю мэтроваю ня мераў, а вокам чалавечым яна зьмерана. Выйдзеш за Бярчукі, а яна адразу гару забірае сабе пад ногі. Пройдзеш праз гару — лагчынаю нырцуе, а потым — ізноў карабкаецца на гару старою бабаю. Так і куляецца яна на выскачку цераз узгоркі аж да самага лесу, што Муравейнікі трымае пад вартаю. Ото-ж і ехалі на Антонавым палукашку, гэтаю дарогаю:—Харытон Мамчыц, сакратар сельсавецкі—Марцін, член Бярчукоўскі — Юзаф, Вацік ды Міхля. (Яна была ў Бярчукоўскай краме і яны для яе падводаю трапіліся да Муравейнікаў).

Зіма ўжо асталявалася. А сягоньня, трыццатым разам, сьнег пабелу сваю налажыў і на платы, і на стрэхі, і на самую дарогу. З ранку вецер, быў, усхадзіўся—хмар панаганяў з усяго сьвету. А цяпер, пад вечар—хмары тыя ў цёмную гушчу сабраліся—віселі прырыхтаваныя на пашэве пад самым небам. Усёроўна як пільнавалі некага, каб ахутаць яго сваёю мультановаю пасьцілкаю.

Надвячорак надыходзіў у гэты дзень спалоханай раптоўнасьцю. Відна было яшчэ, калі фурманка ў сані запрэжаная, выезд рабіла з Бярчукоў. А пакуль ад‘ехалі нейкую мерку—пільнасьць сваю меў надвячорак, акрыў фурманку сваім калмата-трымцячым змрокам. І вецер ад некуль, з-за ўзгорыстага поля, выехаў на начное паляваньне. Ціхім сіверам, перш, дражніўся—шчакатаў прывычныя шчокі людзей, а пад сярэдзіну дарогі—злосна, нават, смаргануў скрутак сьнегу. Але дарога паміж узгорку: ня так-та на палёгку ідзе ветраная задорнасьць

— Бадай ці не падбавіць сьнегу на ноч,—сказаў Вацік.

— А чаму яму не падбавіцца—клінам уставіў Харытон і дадаў:—твайму сьнегу.

Антон счуў гаворку,—сам далучыў свой голас:

— Матушка-зіма...—сказаў Антон.—Надышла яе, так сказаць, порушка... Нно!

Конь сыпаў аскабалкамі сьнегу на перадок палукашак. Выкідаў яго з-пад ног непатрэбнымі грудамі, фыркаў сустрэчнаму ветру—дружную раскідаў па дарозе рысь. Толькі шчокатам шчокі абдаваліся ўездакоў.

Харытону от гэтак седзячы, пад стрэчны сіверны вецер—хацелася пецьпесьню. Хай разносіцца голас бясплатным сіверам. Ды чаму-ж і ня пець, калі воля ў сваіх руках. А хто волю даў? Наша адзіная, наша дарагая, пралетарыямі зробленая рэвалюцыя. І сам Харытон, хоць і ня быў па сваёй маладосьці франтавым чалавекам, а палец прылажыў на здабычу дарагой волі:—у абозах быў аж пад самаю Варшаваю. А хіба мала гаварыў з сходамі пра здабытую волю, а хіба не сельсавецкі ён старшыня, калі выбраны другім годам? І ён будзе да канца стаяць за волю: цану яе Харытон ведае добра.

І яшчэ:

— Хай бачыць Вацік як ён сядзіць на задку палукашак з ёю, з Міхлаю. Бок з бокам каля Харытона Міхля. Ён адчувае, як туліцца яна сваім целам—бярэ з прагнасьцю яго цяпло для сівернай абароны. Яна так блізка, ніколі каля яго не сядзела...

І гэта пасьля таго вечару, калі злосна пайшоў ад Міхлі. Назаўтра сустрэў, быў, Міхлю, а яна такая стала ветлівая...

Харытону запала ў думку:

„Мусіць не пайшоў ёй Вацік на спадобу. Убачыла нашу, між ім, розьніцу. Такая гаварлівая са мною... не пазнаеш, што гэта яна, тая самая. Дарма сабе, што ён гарадзкі... Мы, таксама, умеем абыход зрабіць па гарадзкому. І гэта заўсёды так: чым больш сябе будзеш паважаць, тым больш дастанеш і ад людзей павагі. Добра, што бразнуў тады дзьвярыма і пайшоў: яна вельмі чулы чалавек".

Учора, гэтаксама, на Малінаўках былі: Булгака вагою падварушылі. Думаў булгак, што да аго прыехалі на гасьцібу—бараніў ад сабакі, калі ўзышлі на двор. А калі ў хату зайшлі, ды меркаваньні выклалі пра прыезд—сьнегам пабялеў Булгаковы твар. А праціву—ані кроплі. Ходзіць па хаце ды: „апісваеце, калі маеце права—хэ! высяляйце—калі маеце такі закон"...

Пяць кулькоў солі молатай знайшлі на гары. Запас зрабіў, ліханька. Вайны чакаў. Думаў, што калі вайна пачнецца—ня будзе солі.

Дык дзіва што Харытону песьню хочацца выпусьціць на асьнежаныя прасторы. І ён кажа да цэлага воза людзей:

— Сьпяём... Давайце што-небудзь, такое марознае, як гэты сівер. Люблю я, калі едзеш і конь абкідае, цябе, сьнегам. Га? Яй-богу. Тады, у цябе ў сярэдзіне ўсё варыцца. Да чаго добрая штука, жыць на сьвеце і працаваць...

Міхля паварушылася каля Харытона, сказала:

— І кулакоў раскулачваць...

— І кулакоў...—пераказаў Харытон.—Калі трэба і раскулачвай, а што-ж бо...

Вацік заўвагу падаў да Харытона:

— У цябе, брат, на сёньня вельмі дужы настрой.

Харытону кінулася Вацікава заўвага:—„Міхляю мяне ўпікае. Дзьмецца, што побач з ім ня села".

Адмысловым іголістым словам кальнуў Харытон Вацікa:

— А чаму яму, майму настрою, ня быць дужаму? Што я матку, ці бацьку пахаваў? Ды як сказаць... маладосьць, таварыш Такарскі, склець ня хоча...

Хацеў паказаць Вацiку, што ў яго хопіць і волі і сілы на што хочаш. Ён ня будзе галавою ныць, „хоць і не гарадзкі ён чалавек".

„Учора раскулачылі Маліноўскага Булгака, а сёньня муравейнікаўскага кулака... і ў мяне рука ня здрогне. Хай бачаць і калгасьнікі нашы, як мы з ворагам змагаемся".

Калі думкі былі ў Харытона пра калгасную радасьць—Міхля ня сыходзіла з уяўленьня. Здавалася яму:—яна бачыць яго работу, і ён шчасьлівы чалавек, што яна бачыць. І гэта перад Вацікам. Тады яшчэ большая падшыхала ахвота. Рукі абдаваліся сьвербам да работы. Хацелася зрушыць з месца цэлую гару, зьлітую ў адзін скалісты камень.

„Во, паглядзеце,—хацелася крыкнуць на ўвесь сьвет,—я дужы чалавек, я маю ў сабе шмат маладой сілы і каханьня"!

І Харытон перакорліва заклінаваў Вацікава ўпічышча пра „настрой": запеў на ўвесь голас—.

Са-ама садзік яй садзі-ыла
Сама буду я-й па-аліваць
Гэй!—сама хло-опчы-ыка
любі-ыла
Са-ама бу-уду і разьлюбляць...

. . . . . . . . . . . . .

Вецер падхапіў склады песьні, растрос іх, разьбіў на паасобныя

кавалкі—зацёр у маленькай сьнежнай завірусе. А Харытон пеў:

...Ой што-ж гэ-э-та ды за садо-
о-чак
Сад зілё-о-нінькай тако-о-й,
Ой што-ж гэ-эта за малойчык
Распрыкра-аснай удалой...

Слухаў Вацік, як песьня ўдаралася глухім голасам у сьнегавую замець і яму неякавата было ад гэтых песянных udараў:

„Чаго крычаць поначы, нібы ўпіўшыся?—думка вярзалася ў Вацікa,—што толькі ня ўзбрыдзе чалавеку на розум.

А конь то ўзьнімаўся, то зьбягаў у лагчыну—сані ішлі ад разгону ўхабістым бокам.

...Калі прыехалі ў Муравейнікі—праяжджаючы каля Танцулькавай хаты-Міхля сказала:

— Сунімеце, Антон, каня: я зьлезу.

— Паедзем,—сказаў Харытон.—Паедзем, як сьведкаю ад калгасу. Нам-жа ўсяроўна трэба панятыя-калгасьнікі.

— Каго-небудзь другога, можа... хацела супярэчыць. Але Харытон да Антона:

— Едзь... і проста заяжджай на Кляўкоў двор.

Конь рвануў рысаваным ходам. Агні замігацелі па пераплёцістых хатніх шыбах. І здавалася Харытону:

едзе ён з маладою, сваёю, з ЗАГС-у. От яны зараз пад'едуць, а іх бугуць сустракаць... з гармонікам, з вясельнымі песьнямі... Яны пойдуць у хату, а іх вітаць будуць. Потым і ён скажа прывітальнае да стрэчнае гасьцібы...

Калі прамыналі Петрыкаву хату—з-пад падваротні выбег, ды моцным брэхам праводзіў сані, Петрыкаў Францік.

Нехта стаяў на вуліцы—ламаў на кавалкі, цемраю акутаны свой зірк: спазнаваў фурманку. Цераз вуліцу праходзіла пацёмкамі неспазнаная жанчына—адхінулася, дала разаганую дарогу.

А ў Харытона не адліпала жаданьне:

„Хай-бы яшчэ мацней бег конь па калгаснай вуліцы... Хай-бы пазіралі... бо вельмі добра, што цёмна: неспазнаць хто едзе, а моцна едзе. І ў гэтым яшчэ больш, для невядомага чалавека, зайздрасьці.

Але суцішыўся разгон; Антон лейцы напяў-суняў каня каля самай хаты, дзе пражывае Кляўко.

— Пойдзем у хату,—сказаў Харытон.

І да Антона:

— Ты ўзьяжджай на двор: прывяжы каня ды ідзі ў адрыну—падкінь каню канюшыны. Можа і забавімся, дык хай перабірае.

Ужо на ганку, ногі атрасаючы ад сьнегу, Юзаф заўважыў:

— Калі дочкі ёсьцяка ў Кляўко, падумае, што сваты прыехалі...

Міхля сьмех забрала да сябе—сказала:

— Вам жарт на ўме, а чалавеку і ўнь нават якая бяда...

— Загаварыла жаночае сэрца пра бяду,—адчыняючы ў сенцы дзьверы сказаў Харытон, і дадаў:—заходзьце!

...У хаце не засталі самога Міхася. Міхасіха сказала:

— Паехаў у Прыстань да свайго брата.

— Чаго-ж ён да брата?—запытаў Харытон. Міхасіха ня счула, а гаварыла:

— Сядайце. Адкуль-жа гэта саміх бог нясе. Мо' ці ня сход будзеце зьбіраць?

Харытон спатайка кінуў зірк на Міхлю—гаварыў да Міхасіхі:

— Не-э... Дрэнна... драннавата, што мы не засталі яго дома.

Да стала прысеў—пальцамі перабіраў па голым стале, паўголасам падносіць пачаў да Міхлі, да Вацікa свой сэймік:

— Прыдзецца без яго... Ён для нас і не патрэбен... фактычна. Апішам і скажам... яна дасьць сваю расьпіску аб выязьдзе... Памойму ім можна будзе жыць, дзе яны захочуць... абы ня ў нашым сельсавеце.

А Міхасіха, крошкі з стала сьціраючы трапкачом, ня ведала пра вошта ў паўголас гавораць людзі— сорам за сваіх дзяцей паказала перад Міхляю:

— Прабачайце,—сказала, — дзеці нераўнуючы, як тыя сьвіньні: і глядзіш за імі, і кожнаму паасобку ўвальеш, а яны, патом, увесь стол сальлюць. Дык я ўжо абруса і не засьцілаю. Дзе-ж вы, васпані, бачылі: не намыешся, рук ня хопіць...

Харытон перапыніў Міхасіху, устаючы ад стала сказаў:

— Нам трэба зрабіць вопісь... вопісь вашай, так сказаць, маемасьці. Дайце нам ліхтар і мы пойдзем гуртам, агледзім, запішам...

— Ноччу ды з агнём...—паглядзела жанчына на Харытона.—Як-жа гэта?

— Вы ня бойцеся,—сказаў Харытон. —Мы не закінем агню, мы-ж ня дзеці...

— Дык-жа, там у каморы і кудзеля на вышках... Яна-ж абы пры- ткнуўся, як порах... Чаму-ж вы, мой Харытонка, завідна ня прыехалі?

— Часу, цётачка, ня было...

— Ужо-ж у Банадысявых і ў Танцулькавых рабілі вопісь?

— У іх і рабіць ня будзем.

— Чаму?

— Яны—калгасьнікі.

— А для чаго-ж гэта пішаце некалгасных?

— Як апішам, цётачка, тады і скажам.

І да Марціна:

— Бяры папку.

Потым да Юзафа, да Міхлі:

— Пойдзем...

На пякольку сядзеў Міхасёў Юзік у адных, кужалям сатканых, штанох. Сарочка з такога самага кужалю, толькі манкеты прушчынаю аблямаваны... Сядзеў і не хацеў сябе паказваць перад чужымі людзьмі, каб сораму не набрацца за сваю вопратку.

А Міхасіха:

— Юзічак... дык ты Юзічак зьлез ды прайдзіся, калі ўжо так трэба.

— Трэба, цётачка,—сказаў Харытон.

Яму ішла на спадобу гаворка з Міхасіхаю. Хацелася, каб яна аж да канца ня ведала, чаго яны прыехамі, што хочуць рабіць тою вопісьсю. Але Юзік кемлівасьць знайшоў сярод Харытонавай работы. Забыўся на сваю вопратку—з пякольна саскочыў на падлогу босымі нагамі:

— Мамка... гэта-ж яны прыехалі...

Юзік на здагадлівасьць узяў Харытонавы словы, што гаварыў Вацíку над сталом паўголасам—

...гэта-ж яны прыехалі,—сказаў Юзік,—нас раскулачваць...

Хрытон ня чуў, што сказаў хлапец, вышаў ужо за дзьверы. Міхля вышла за Харытонам—вынесла з хаты паведамленьне:

— Яны ўжо здагадаліся, якая вопісь,—сказала Міхля.

І што сказала яна—радасьцю было для Харытона. Не самыя словы радавалі, а яе голас: от ённевашта робіць, а яна каля самага яго... так добра...

Ліхтар запаліў Харытон, вачыма лавіў, што перад ім было на пашэве, дыктаваў сакратару Марціну, як настаўнік для вучня дыктоўку.

— Пішы, — сказаў Харытон,—от стаяць, дзьве парожнія дубовачкі...

...Вацік не пайшоў у сенцы з Харытонам—заставаўся ў хаце. Сядзеў на новым, ад смалістага паху ня выцяртым тапчане і ня мог разблытаць сваіх думак. Блукаў тупым зіркам па водблесках курадымнай газоўкі—бачыў хатнія рэчы, як скрозь імглїста-золкі туман.

Міхасіха гаварыла Вацíку:

— ...век зжылі—нікому вока не зацярушылі. Нам людзі і сёе і тое, а мой-жа Міхась... суседзі ўсе нас ведаюць. Завошта-ж, людцы мае... Што-ж мы нягоднікі, ці арыштанты? Ці-ж мы зладзеі... Дзеці нашы, таксама, ня тое, як другія—аблае цябе ні празвошта, шкоду наўмысьля зробіць...

Калі прыглядаўся Вацік, бачыў у суцэльнай выразнасьці:

бярвяно, над самаю балькаю, каржакаватае відаць было у маладосьці: не паддалося старасьці, не асела. Ад таго і пайшло яно на выступ з усяе хатняй сьцяны. Тады думалася Вацiку: „падняць-бы два вянкі верхніх на вагу і яго на сваё месца загнаць дубовую „бабаю"...

— Мы-ж, як той казаў, і падатак, і штрапоўку, калі прыслалі, колькі трэба было і здалі. І ніхто, гэта, каб супроць падаткаў, каб супроціў штрапоўкі. Прыслалі нам у леташнім годзе падатак трыццаць сем рублёў і ў леташнім мы заплацілі. У гэтым годзе, я-ж кажу—дваццаць шэсьць рублёў і шашнаццаць капеек. Мы-ж, калі трэба і яшчэ з рублёў дзесяць змаглі-б агараць. Колькі нам прыслалі—мы-ж і заяўленяў, ні сёлета і ні летась, на збаўку, гэтак як скажам другія, не падавалі. Міхась мой кажа, калі трэба пасьля вайны будавацца нашаму васударству, дык і памагчы трэба, а як-жа...

— ...бервяно гэта загнаць дубовою „бабаю", а потым хату, атынкаваць... Дык і прусакі ўраз, зьвяліся-б... А то-ж іх так шмат бегае... А яны-ж такія пладлівыя... Нейдзе напісана было, што адзін прусак дае прыплоду ў суткі больш тысячы штук. Ах, колькі, тутака іх шмат! Патрэт Леніна ўзяць у маленькія памаляваныя рамкі... плакацік калгасны наклеіць над дзьвярыма...

— ...Вы-ж мусіць майго Міхася ведаеце. Яны-ж удвох з Юзікам, у вас, у Чырвоным, рабілі гэтым летам сырабойню. Ён, ведаеце, можа і зрабіць хоць што. От што ня возьме, дык у яго руках яно гарыць. І гаршчок—от бачыце, унь на прыпечку—гэтак-ж яго работа. Як уцісьне. дротам, вада нават і ні капне. Коўш сам зробіць. Скавародку здрылюе... у яго і дрыль свой ёсьцека. І дрыль, думаеце—сам зрабіў. Начоўкі, цабэрачак, альбо ражачку—зробіць. Бо хто-ж яго ўсяго, калі-б прышлося, накупляўся...

— ...печ, таксама, каб абмазаў шчыльна, каб выбяліў—паадпадала гліна. Дзьверы ў шафэ патачыў шашаль... завеса выпала з дзьвярэй... яны, як адчыняць іх—трэба прытрымліваць, каб ня ўпалі. А як закурана ад гэтай іхняй газоўкі столь... Газоўка шмат, такі, дае дыму.

— Скажэце, таварышок, што-ж вы з намі, як зробіце апісаньне, будзеце рабіць? Ці нам трэба куды-небудзь заяўлене пісаць, ці нам...

Вацік хацеў зрабіць адказ. Глядзеў на Міхасішын кафтан, што быў крысьсямі заткнуты за паясьніцу ды:

(крысо адно ў кафтане, было, прадралася. Міхасіха ўсё зьбіралася, каб даць адмысловую латку на тое крысо. Часу не магла падабраць. Дык падаткнула, каб ня так кідалася яно чалавечаму воку).

— ...

Так і не сказаў Вацік: хатнія дзьверы адчыніліся і ўвайшла ў хату камісія па вопісі.

Харытон, як правадыр — наперадзе за ўсіх.

— От і апісалі...

І гаварыў да Марціна:

— Пішы, садзіся, акт вопісі.

Прайшоўся да стала, кінуў на Ваціка скрыўленую ўсьмешку, а потым згладзіў яе тонам таварыскай заўвагі:

— Чаму-ж, гэта ты не пайшоў?

— Хопіць і без мяне,—адказаў Вацік, — вас-жа тамака і бяз мяне было.

— Было, а прадстаўніка ад рабочай масы і ня было...

Тады ў Ваціка ўзьнялася рыхтаваная праз увесь час навальнічая злосьць. Хацелася, тутака, перад усімі столькі нагаварыць яму, Харытону... Хай ведае, што не патрэбна Вацiку Міхля. Ён нават ненавідзіць яе. Яна як тая вужака залазіць у чалавечае нутро, каб яго дашчэнту згрызьці.

Марцін пісаў, а Харытон гаварыў яму пра першы пачатак таго

актy. Вацік глядзеў на Харытонаў чырваньню заірдзелы твар, на яго прыўзьнятую верхнюю губу, на павуціне, што начаплялася на шапцы, калі лазіў на кляўковы вышкі. Іяшчэ большая нянавісьць, ад гэтага ўсяго расла да Харытона. Тады было ў Вацікавых думках:

„Гэтак як ты хочаш, мой братка, ня будзе. Даволі, хопіць нада мною кпінкі строіць. Не дла таго прыслалі нашы, рабочыя таварышы, каб мірыў я цябе з Міхляю. А я яе і знаць і ведаць не хачу. (Ды ты-ж мяне сам з ёю пазнаёміў). А тваю, брат, работу перагледзім на сельсавецкіх перавыбарах. Усе муравейнікаўцы скардзяцца на тваю рызыку. Ня ўмееш з людзьмі абыходзіцца, а потым кулаком за нішто чалавека пачынаеш абзываць. А што ў муравейнікаўскім калгасе робіцца—і ў галаву табе ня ідзе. Абы калгас. Абы шмат было калгасаў. А таго не паглядзіш, які гэта калгас. Чаму на яго людзі скардзяцца. Чаму гэты канец і да гэтага часу ня хоча да таго канца далучыцца. Як тая Старавойціха казала: чаму бульбы зазімавала на полі цэлая палавіна“.

Дзе ня быў на сходах па ваколічных вёсках — усюды ўпічышчы падносілі муравейнікаўскім калгасам. Калі гаварыў пра калгасную карысьць—трымаў за пазухаю базьлівасьць: выйдзе хто-небудзь з сабранага сходу, ды тою самаю гусьсю, ці зазімаванаю картопляю ўватрэ табе нос. Добра, што напашэве меў Вацік Бродаўскі калектыў. Хоць і малады калектыў Бродаўскі—пасьпеў паказ перад людзьмі зрабіць у дружнай рабоце.

А было ў тым паказе:

поле ўсё скібамі накрылі на зіму. Аднаго карча картаплянага не пакінулі маразом на пацеху. Збожжа вымалацілі прывадною малатарняю сваім часам. Сьвірань новы паставілі на даўнейшай Саладухавай сядзібе, ды сьвінарную пачалі будаваць будыніну. А лішнія калгасныя рукі паехалі на заработкі: дровы, шпалы падвозілі абозамі да шаснаццатага разьезду. Дык дзіва, што не па шэсьць пудоў, як у Муравейніках, а падвойная норма прыпала на рабочага бродаўскага калгасьніка. Брадоўскі Лявон Махавік неяк быў у Чырвоным—да сваёй пляменьніцы прыяжджаў—гаварыў:

— Цяперака мяне парачом, ета, ня выпасажыш з калгасу.

А калі астачу збожжавую прадалі дзяржаве—грошы мелі праз патрэбу ў кішэні. І зямля-ж, тамака, куды—горшая: камяніца, ды прыбалоцьце. І зямлі менш, і сілы вобмаль.

Вацік Чырвонае паказваў перад сходамі. Добра, што людзі блізкія і самі нават добра ведаюць пра Чырвонае. Ня трэба і гаварыць шмат. А людзям, калі сход праводзіш—толькі і дай, і пакажы: вазьмі адкуль хочаш, а слоў адных не паказвай. Раззлуеш словамі, а карысьці не дастанеш ні на адзін ногаць. Дык хот-ж вінаваты ў такой калгаснай рабоце? Чаму-ж гэта тая самая работа, а не ў адну пару зроблена? Хіба-ж там меней было дажджавых дзён? Хіба-ж тамака, за пяць кілёмэтраў ад Муравейнікаў—сонца больш палажыла цяпла? А мо'' тамака другія жывуць людзі? Мусіць-жа другія, бо: тыя празываюцца бродаўцамі, а гэтыя муравейнікаўцамі.

Харытон паўголасам гаварыў з Юзафам. Міхля тлумачыла заплаканай Міхасісе—дарыла ёй нёразумелую ўцеху, казала:

— Вы-ж не адны. Шмат такіх што падыходзяць пад раскулачваньне. Будзеце жыць, нічога-ж, цётка, ня зробіш. Будзеце жыць... Вас-жа не вядуць на расстрэл: супакойцеся, а то і дзеці, на вас гледзячы, пачынаюць плакаць.

І от Марцін, з-за стала ўстаючы, сьцішыў блуклівыя па хаце словы:

— Зачытаем,—сказаў пазіраючы на Харытона.

Харытон абазваўся да Міхасісі:

— Цётка... ідзі да стала і слухай. Чытай,—сказаў Марціну.

Марцін трымаў у руках сьпісаную паперу ды:

— „Акт...—скухайце-ж, цётка Міхасіха. Ня плачце, а слухайце:

— Акт... акт тысяча дзевяцьсот... ах, якая-ж вы, цётка, не церпялівая на сьлёзы... гэтага году, мы ніжэйпадпісаныя, а іменна: старшыня Бярчукоўскага сельсавету — таварыш Мамчыц, сакратар камсамольскай ячэйкі — ён-жа і партыец, і прадстаўнік ад саўгасу Чырвонае—таварыш Такарскі, у складле з панятымі — таварышом Крыгаю Антонам, таварышом сакратаром сельсавету Кантончыкам Марцінам і прадстаўніком ад калгасу Муравейнікі— таварышом Галінскаю Міхалінаю, агледзелі маемасьць грамадзяніна Кляўко Міхася, што пражывае ў вёсцы Муравейнікі, аб чым і запісалі ў гэты акт наступнае...

Міхасіха ізноў плачам пачала варушыць спакой. Але сьцішаным, сілаю прыціснутым жаночай яе трываласьцю. Марцін падняў ад паперы зірк і толькі адным момантам: ізноў чытаў — пералікі рабіў Кляўковай гаспадаркі.

„... дзьве парожнія дубовачкі з зялезнымі абручамі, каўдаўб самарослы з аўсом—пудоў пяцьдзесят, скрыня з жытам, у адным засеку—пудоў трыццаць пяць... жорна з двох камянёў, два цаберкі з арэхавымі абручамі... ступа новая і ступа старая. Гляк з вазаю фунтаў на дзесяць... шынка фунтаў дзесяць і здору—фунтаў пяць... Аўчын вырабленых — чатыры штукі: дзьве з нястрыжанаю воўнаю, а дзьве з стрыжанай. Куфар для вопраткі...

— Цяперака: хата з сенцамі. На вышках дзьве новыя дылі. Адрына з сенам—пудоў паўтараста. Аметнік з амецьцем—пудоў дзесяць...

— Цяперака:—Хлеў адзін. У хляве—дзьве каровы і пярэлетак. Конь—жарабец (рублёў на трыста) ў той хаце, дзьве авечкі, двое ягнят. Сьвіней—трое.

— І яшчэ: студня, карыта... потым...

Марцін спыніўся ды ў Харытона запытаў:

— Што ‘шчэ запішам з хатніх рэчаў.

Харытон поглядам зьмерыў хатнія сьцены. Убачыў на сьцяне Міхасёву падношаную бурку.

— Бурку, — сказаў, каб не пачула Міхасіха. Упішы бурку. І яшчэ... — блудзіў зноў вачыма па хаце — убачыў на старасьцю скрыўленай шафэ Арцёмаву двохрадку.

Леташнім годам купіў Міхась для серадольшага свайго Арцёма гэтую двохрадку. Быў на Луціцкім кірмашы, дык хлапец з Доўгага Поля доўга з Міхасём валаводзіўся. Міхась даваў яму адразу дзесят рублёў, а ён адразу—пятнаццаць. Потым гэтую спрэчку падзялілі палавінаю: Міхась два рублі з палавінаю дабавіў, а хлапец скінуў... Прывёз дадому ды да свайго Арцёма: „іграй, мо‘ што-небудзь і выйдзе“. Дык Арцём праз месяц нават, навуку ўзяў у рукі. „Чудный месяц“ іграў, а потым—„Каробочку“, а потым—кадрылю іграў як мае быць... вальц—„Златыя горы“—іграў.

— Гармонік упішы,—сказаў Харытон.

Міхасіха да Харытона падышла з заплаканымі вачыма:

— Ня ўпісуйце, таварыш, гармоніка, — папрасіла гледзячы то на Харытона, то на Міхлю,—дзіця-ж на ім вучыцца.

А Харытон:

— Мы, цётачка, ведаем, што нам упісваць. Пішы,—сказаў ізноў да Марціна.

Сам да шафы падыйшоў—зьняў гармонік з шафы. Папружкі расшпіліў, рукою правёў па галасох.

— Не сапсуты... Усе галасы спраўныя.

Арцём сядзеў на ложку, падкурчыўшы ногі. Падышоў з гармонікам Харытон да Арцёма:

— Сыграй, хлапец... Ну, вазьмі і сыграй, што ты ўмееш.

— Ня ўмею я іграць,—адказаў Арцём.

Тады матка падышла да ложка. Ня ведала, што лепшым будзе: ці калі сыграе Арцём, ці калі ня будзе іграць. Потым Харытону даверліва падарыла зірк: „можа пад увагу вазьме, калі паслухае сынок—сыграе“. Сама папрасіла Арцёма:

— Ну, дык вазьмі-ж сынок... калі дзядзька просіць цябе. Пакажы, як ты іграеш.

— Ня ўмее, відаць,—патураючы Міхасішынай просьбе сказаў Харытон.

Узяў тады Арцём у рукі гармонік. Павольнасьцю надзеў на плячо шырокую папругу. Пальцам праняў гармонікава вушка, дзьмухнуў на пыл, што асеў на верхніх кантах гармоніка ды заіграў:

На—а—рам—та—ці—та—ра
Тра—а—ра—ці—та
Тра—а—ара—ці—та—ра—ра
Ціль—ы—ра—а—ра—ра...

Харытон расьпевам паўтарыў радкі песьні:

.. Зно-о-ў рыхту-у-е нам
Царскі трон...

. . . . . . . . . . . . . .

... Харытон гаварыў, а Міхасіха фартухом выцірала сьлёзы. Маленькая Проська ў калысцы лямантам раскідала плач. Як і ня чула дзяцінага плачу Міхасіха: церла чырвоныя вочы.

Міхля падыйшла да калыскі—узяла двума цальцамі за бераг калыскі—гаварыла да дзіцяці:

— Ня плач-жа... а-а-а-а... Ціха... Эх, ты...

А Харытон:

— ...у дваццаць чатыры гадзіны. З нашага сельсавету, вы павінны выехаць у дваццаць чатыры гадзіны. Мы пакідаем вам, там у мяшку—два пуды аржанай мукі, здор і таксама...можаце забраць, таксама шынку. Упісанае ў акце, калі за ноч прападзе што—вы будзеце перададзены пад суд.

Апісанае, ня ваша цяперака. Расьпішэцеся на складзеным акце.

— А гармонік... —зьвярнуўся да Марціна Харытон,—гармонік мы возьмем з сабою: вычыркні гармонік з акту.

Як розум страціла старасьцю Міхасіха. Не разумела, што гаварыў Харытон—фартуха не адымала ад вачэй.

Тады сам першы палажыў подпіс на паперы. Калі ставіў апошнюю літару,—разьвёў доўгі хвост свайго „ц“. Потым, кропку паставіў, ды палачку лежабокую прыпісаў каля той кропкі.

— Расчыркуйся...—як нібывала ні ў чым падаў сьпісаны акт Ваціку.

Сядзеў Вацік на тым самым месцы Кляўковага тапчана. Поглядам акінуў Харытона, калі клаў ён перад ім паперу. З тапчана ўстаў, перакорліва-ўзьнятым голасам сказаў:

— Не, таварыш Мамчыц, падпісваць гэтага акту, я ня буду.

VII.

За цэлую ноч гурбамі намяло сьнегу. Прыўдарыла, сілу сваю разамнула сіверная зіма. Вецер 'шчэ не ўтаймаваўся пасьля ночы.

Каля Скрыпунішынай студні—во, якая была вялікая замяць! З усяго поля, здаецца, вецер пазьбіраў сьнег—злосьць сваю сыпучую, вострую, на некім спаганяў. Праз увесь ранак пракідала Скрыпуніха сьнежныя сьцежкі. Цела займжэлася ад цяжкага шуфля (ня было адмысловай сьнежнай лапаты—так і адкідала шуфлям).

Павэлічыха ішла вуліцаю пад той канец, праз штакеты ўбачыла Скрыпуніху.

— Дзіндобры, сястрыца,—калі нагнуўшыся каля падваротні адкідала сьнег, пачула голас Павэлічыха.—Мужчынскае, гэта, сястрыца, работа,—сказала Павэлічыха.

Абаперлася Скрыпуніха на чаранок шуфля: рада была, што чалавек трапіўся—перадыхнуць можна на хвіліну.

— А-а... залаценькая: дай-жа ты рады...

Ведалі абедзьве, пра што трэба расчынаць гаворку, а няважылася ні адна, каб быць першаю. Тады Скрыпуніха парканула, шуфлем падправіла рассыпаны сьнег, свой нос то туды, то сюды кранула бокам пальца ды:

— Ня была-ж ты ўчора ў Міхася? —запыталася Скрыпуніха.

— Не-э... Я-ж цябе чакала,—думала, што ты па мяне зойдеш.

— Дай-жа ты, рады, залатая:— ізноў правяла пальцам каля носа. Шуфель уваткнула ў пакамечаную гурбу, да самых штакетаў ступіла старымі валёнкамі. — Падыйшла я, гэтак, пад вакно...—гаварыла скрадзеным голасам (—думала разьведаю, а тады ўжо зайду па цябе). Аж калі падыйшла я пад вакно, калі зірнула... А тут мяцеліца, ліханька на яе, — сьвету божага ня відаць — круціць, гудзе... калі глянула я ў шыбы—божухна-бацюхна: —плачу поўная хата. *Яна* аж за галаву хапілася рукамі—галосіць... дзеці, чуваць, плачуць. А Харытон, усё кулаком па стале заневашта стукае і ўсё невашта гаворыць і ўсё невашта наказуе. Дык мяня аж страх апанаваў: ходу я ад вакна. Ды сама сабе думаю: хаця-б ня прыкмецілі. Мала што брыліянтавая: да нас яшчэ, думаю, гатовы прыкараскацца. Казала я ўжо свайму: пішыся, кажу, у калгас. А ён —ты-ж ведаеш майго Кузёмку—ані блізка. От як сойдуцца з Журам, дык адно толькі і чаўпуць: „пакуль Танцулька будзе ўпраўляць калгасам—ня пойдзем“ Хоць ты яму кол чашы на галаве.

— Дык што-ж гэта цяпер будзе з Міхасём?—запытала Павэлічыха.— Што яму будуць гэтым кулачаньнем рабіць?

— Гэтак як Булгака,—Скрыпуніха адказала, — будуць ссылаць у ссылку.

— Божа мой,—бяду ўзяла Павэлічыха з свайго запасу.—От табе і Савецкая ўласьць. Чакалі, як той казаў, як бога савецкай ўлады, аж на табе... Ну, Булгака скажам будуць ссылаць — дык гэта-ж бог вялеў. І дзіва тут ніякага. Я каб прымела—сама-б першая—рука ў мяне не ўздрыганулася. Бывала як жаць мы да яго хадзілі — воўк-воўкам. Усёроўна як злосьць нейкую на цябе носіць за пазухай. На што тут доўга: ён-жа пры стрэчы, табе, дзіндобры ня скажа. Чорт яго ведае, што гэта быў за чалавек. Такога, мая мілая, ня шкода. Але от Міхася, небараку, за што?

— Я ўжо свайму казала гэтак (ёнжа за гэтыя саветы аж дзярэ горла. Ты яму—ого—словам не абзавіся). Дык я, як паехалі учора да Міхася, і кажу яму: от якая твая ўлюблёная савецкая ўласьць, ага. А ён як рассярчае на мяне... бо ня было яму, бачыш, чаго гаварыць. Са злосьці толькі адно кажа: „гэтак ня будзе. Міхася ня будуць кулачыць“. А я яму сваё: — дурніца ты балацяная (так і кажу ў вочы), як-жа ня будуць, калі паехалі, і ўжо кулачаць...

Павэлічыха пратрымала хвілінную маўклівасьць: глянула на абапалкі вуліцы—праверку зрабіла ці ня ідзе хто, ці ня чуе іхняй гамонкі. Нікога ня было на вуліцы. Вядома, гурбамі вуліца ўся перахрышчана: не прайсьці, не пракарабкацца. Глядзела ў Скрыпунішын твар, дабрату свайго сэрца, выкладала вачмі, а Скрыпуніха гаварыла:

— Калі па-праўдзе казаць, можа нават ўласьць тут і ніпрычым: дзе ты ўсяго дагледзіш... Мужчыны нашы, я табе скажу, мая мілая, гэта ня мужчыны, а галяндэрскія цяляты: чаго маўчаць? Ды я-ж бы, ідры яго маць, бабаю будучы і то—калі-б гэта час быў хадзіла на гэтыя сходы, як яны ходзяць... Я-ж яго так узяла на цыгундры, гэтага самага хоць-бы Танцульку... З яго-б, толькі пацяруха закурэла! А то, ходзяць, гавораць, як назаўтра трэба: баяцца Танцулькі. Што, гэта, хто ня ведае яго? Бацька некалі, хоць-бы сабе з гэтага Міхася, зьдзе-

кі ды кпінкі строіў, а тут на табе —і сыну вялеў.

Трымала спешнасьць Павэлічыха напашэве: тупала каля штакетаў— існьці зьбіралася на той канец. Скрыпуніха паднесла Павэлічысе другую навіну: абы каб пастаяла яна даўжэй каля штакетаў.

— Ня ведаю ці праўда, а сёньня я зьбіралася толькі падкладаць, гэтак, агонь пад дровы, —гаварыла Скрыпуніха, дык да мяне забегла Петрыкава Наста: солі пазычала стопку. Забегла, гэтак, і кажа: „Учора на Міхасёвым кулачэньні пасварыліся Вацік з Харытонам“. Я ў яе не распытвала. Яна сьпяшалася вельмі—дзяцей адных пакінула ў хаце... Казала, нешта Вацік, як-бы за Міхася быў, а Харытон яго за гэта аблаяў кулаковым падсьпявалам. Дык казала, што сёньня ў раён паехаў Вацік з-за Харытона... Дык і Міхля, таксама, была ўспала на Ваціка.

— І Міхаліна была на кулачаньні?—далася Павэлічыха дзіву.—От бо без яе нічога нідзе не прамінецца. Кажуць-жа, што Харытон за ёю егліць?

— Нічога ты, мая мілая, ня ведаеш.—Упікнула Скрыпуніха.—Жывеш пад самым бокам і ня бачыш: за ёю, і адзін і другі, як тыя кныры. Думаеш—за яе, можа, і сварку ўзьнялі. Ім ня так-та Міхась, як яна пахне прынадаю.

Павэлічыха паказала супярэчлівасьць:

— Не кажы, кабеціна, пра Ваціка. Гэта хлопец—няма чаго казаць: і спакойны і спанялы... Ён, табе, калі і пра калгас гаворыць, дык яго, здаецца ўзяў-бы і паслухаў: праўду кажа, што прасьветлай гадзіны ніколі ня бачылі. На што тут доўга: ці мы знасілі што людзкае, ці зьелі як той казаў. Дальбог, праўда: посьніцаю душу адводзіш. Ён табе на адум ня скажа, гэта табе не Харытон.

Кінула погляд, зьнячэўку, уздоўж вуліцы—сказала Скрыпунісе:

— Нечага Міхась з Лаўрэнам ходзяць?—пашлі да Ёсіпа.

Глядзела пакуль іх не схавала страха Ёсіповага склепу, што выстаўляецца перад вуліцаю. Тады голасна сказала сама да сябе:

— Пайду-ж я... гэта-ж бягу я да Банадысіхі, кароўка ніяк ня ступіць на заднюю нагу. Ці ня ўшчаміла толькі, баюся, у загарадкі, ці ня вывіхнула нагу каля капыта. Трэба, каб Банадысіха навязала навязку. Заходзь да мяне, залатая...

Лаўрэн Жур памагаў Міхасю бяду яго разносіць па гэтым канцы.

Раніцаю прыехаў Міхась з Прыстані ад свайго барата, а жонка і сустрэла з горам-бядою: „высылаюць нас. У кулакі запісалі. Ратунку трэба шукаць. Я, Міхаська, нікуды з сваёй, радной хаты не паеду“.

Усё спрытна расказала пра ўчарашні вечар. Дзіву, перш, Міхась даўся: „як-жа гэта, што чаўпе баба? Ці ня з глузду баба зьехала? Куды, хто высылае, за што?“

А Лаўрэн цэлую ноч не знайшоў сну. Мяркаваньні тасаваў пра Харытонаву работу, думкамі варушыў: „Быць-жа ня можа, каб уласьць наша дазволы такія давала Харытону. Хай сабе Міхась і сказаў на сходзе супроць калгасу—дык можа ён слова самога ня ведаў, а ня то што. Трэба папытаць-бы, чаму сказаў, ды параду даць, а ня шурамбурам“.

А калі раніца з-пад цішка ўзыйшла на Лаўрэнаў двор—на скорую руку каровіне кінуў трушанкі, а сам да Міхася... падзяліць бяду-гора, папалавініць.

Скрыпнуў дзьвярыма і дзіндобры ня ўсьпеў даць. Адразу словы свае пякучыя, выклаў перад Міхасём:

— Трэба хутчэй сьпяшацца ..—сказаў Лаўрэн.—Даволі нацярпеліся... Прапанстваваў, дзякаваць богу: хопіць.

Іскрыстым агнём загарэліся Лаўрэнавы вочы. Твар наліўся сьпелаю крывёю: нутро загаварыла за не-

справядлівасьць, над чалавекам, вялікаю крыўдаю.

— Няўжо мы такі ня знойдзем свайго права — выкідаў Лаўрэн злосьцю апырсканыя словы. — Няўжо ня здолеем Харытонавай патолі? Дакуль-жа ён будзе іграць з Ахрэмам у адну думку? Што-ж гэта за насланьне на нашу вёску? У людзей і калгасы тыя людзкія і жыцьцё ідзе палюдзкаму. Братка Міхаська... хоць ты і надзелены быў, а я батраком празываўся, а жызьня наша сходзіцца. Бацька твой пасьля Калечыцавай апекі хоць і з тым надзелам, а на ногі ня здолеў паўстаць. Хіба-ж мы ўсе, суседзі, ня бачылі твайго жыцьця? Я-ж першым пасьведчу тваю жызьню. Якая яна гнілая была... Навошта-ж гэты зьдзек. Я за цябе, ад усіх нас Міхась, буду пісаць заяўлене... самому Калініну, далібог... няўжо мы правоў ня знойдзем? Знойдзем і свой калякцію зробім. З аднаго гэтага канца зробім. І цябе далучым і Старавойтава далучым... Танцулька з Банадысем строяць кпінкі з гэтага старога. Штурхаюць яго, як тое соўгала, то сюды, то туды. Дакуль-жа гэтак будзе? Што-ж гэта: хіба-ж ты роўня Булгаку, альбо Танцульку?

Абярнуўся быў да Міхасіхі, казаў як у сябе дома:

— Сьціхні, кабеціна, рымстаць. Тутака ня плачам трэба браць, а праўдаю. Ён, ліха яго матары, залез у калгас і раскашэльваецца, а на цябе раскулачаньне пасылае.

Радасьць з горам зьмяшалася ў Міхасёвым сэрцы. Хацеў гаварыць і ня мог: „Ёсьць-жа ўсё-такі людзі на сьвеце, што бяду тваю пільнуюць“.

— Лаўрэнка,—сказала Міхасіха,— Танцулькі-ж на вопісі ня было, што ты на яго віну кладзеш?

Міхась цярплівасьць, быў, абарваў перад чужым чалавекам. Аблаяў жонку прыкрым словам.

— Калі яны прыехалі, гэтак, — казаў да Лаўрэна,— дык я быў дома,—было-б нешта. Так бы, Лаўрэн, не прамінулася. Ты-ж мяне ведаеш: я чалавека не крану пальцам, калі ён мяне не чапае. Я доўга магу насіць у сябе цярплівасьць. Але ўжо калі і вынашу маю цярплівасьць, калі яна возьме і парвецца—вя-алікага наробіць грукату. Ня даў-бы я ім швэндацца поначы па маіх будынках. Кала даў-бы Харытону і ягонай палюбоўніцы.

— Добра, што і ня было дома,— упікнула Міхасю жонка, — калі ты так кажаш... Рызыку выставіў, а на рызыку ўзялі-б ды і забралі-б... Гэта-ж, табе, старшыня, а ня хто... ды і Вацік-жа...

Міхась даставаў, тады, з трамы для заявы лінаваную паперу, сказаў на жончына слова:

— На Вацікa я слова не скажу. Вацік як трэба чалавек. І на яго я ніколі не забудуся. З першага разу я ўзьлюбіў яго. Не, Лаўрэн, не з таго ўзьлюбіў, што ён, кажа жонка, ня даў свайго росьпісу, а з таго, што разумны чалавек. Хай-бы, сабе, нават росьпіс даў і я да яго ўсяроўна маю любасьць. Бо чалавек, як той казаў, не пражываў з намі век, мо' і ня ведае хто мы. Ды яшчэ яму ўсякага на мяне надзейкалі—канечна...

...Цэлую раніцу хадзіў Лаўрэн з Міхасём па гэтым канцы. У хаты заходзілі — заяву, што ўдваіх пісалі за ўсіх—чыталі кожнаму: каб расьпісваліся, каб сілу большую мела тая заява.

Увесь гэты канец муравейнікаўскі—заварушыўся пачапаным муравейнікам. Злосьць ускладаў на сельсавецкі парадак. Мацей Брус ня стрываў—пайшоў у Бярчукі да Харытона. Ідучы нёс з сабою злосную развагу:

„Я яму, хіба, свае пакажу кулакі. А то ён, мусіцька, ня бачыў ніколі кулакоў.“

Але не застаў Харытона — сплюнуў ад прыкрасьці.

Павэлак Крутаножка быў у падпавеці, калі прышоў Лаўрэн з Міхасём; трымаў у руках сталярскі аловак—рапартаваў развалкі. Стаў-

ляючы подпіс на зношанай раніцаю заяве—казаў:

— Ня бойся Міхась. Ня вышле цябе ніхто. Хай толькі спробу возьме... Заяўлене трэба самім везьці ў самыя рукі. Я, нават, магу паехаць.

А заява была напісана рэдкім хэмічным чарнілам. Высахла чарніла ў кантовай стаўбунаватай пляшцы — адна гушча была на дне. Міхась разводзіў гушчу — перадаў уліць вады. Але чарніла за тое зрабіў шмат.

От што напісана было хэмічна рэдкім чарнілам:

*„Нашаму таварышу Калініну разам з бальшавіковаю Партыяй"*.

...ад грамадзян, аднаасобных таварышоў, што жывуць на гэтым канцы Муравейнікаў—

Заяўлене.

Дарагі ты наш стараста, Калінін. Пішам табе гэта заяўлене, а таксама нашай Партыі. Просім вас дваіх, каб разабраліся вы ў нашым заяўлені адносна нашага сельсавецкага старшыні Харытона Мамчыца і адносна нашага Міхася Кляўковага.

З нашай цярплівасьці на Харытона вышла ўсялякая мерка. Мы ня можам больш цярпець на яго работу. Паслухайце дарагі Калінін і Партыя, што робіць гэты неразборчывы чалавек—Харытон.

Міхась Кляўковы пражывае на тым канцы нашых Муравейнікаў. Жызьня ўся яго перасыпана, з самага маленства, папялястаю бядою. Хоць у яго зямлі і больш было, як у нас на гэтым канцы (нашым бацьком цар некалі даў, быў, як батраком па дзьве дзесяціны, а ім за паншчыну па цэламу паўвалочнаму надзелу), але бацька яго ня змог пасьля паншчыны ўзьняцца на ногі. А Танцулькаў бацька, бацька Ахрэма, што зараз лічыцца калгасьнікам, меў гэта на воку: узяў палавіну той зямлі на арэнду. І от гэтак увесь век, можна сказаць, жыў стары Кляўко на палавіне зямлі. А потым і малады, гэты самы Ахрэм, спанатрыў на гэту работу: падбухторыў малавумнага Міхасёвага брата Клемуса—насаўсім адсудзіў Міхасёву палавіну. Так што, каб трохі, дык Міхась, можна сказаць, быў-бы нашаю раўнёю. Дык от, таварыш Калінін і таварыш Партыя — пасудзеце самі: Харытон, наш сельсавецкі старшыня, узяў цяперака і прызначыў за гэту Ахрэмаву арэнду, нашага суседа Міхася на раскулачаньне. Ён кажа, што Міхасёў бацька некалі браў арэнду і ад гэтага, у яго сына, Міхася, кулаковы карэньні. Нам здаецца, дарагі наш Калінін і дарагая Партыя, што гэта не па справядлівасьці. Патаму, як мы ўвесь час жывём і бачым Міхася, як ён б'ецца як тая рыба аб лёд, каб знайсьці сабе прадуху. Па нашаму, дарагія таварышы, трэба было кулачыць Ахрэма Танцульку. Нам, здаецца, ня трэба-б глядзець нават і на тое, што ён зьяўляецца калгасьнікам. Па таму, што ён, як выбраны ў калгаснае ўпраўленьня, не глядзіць калгасу, а п'янствуе і ад гэтага можа нават, і каровы здыхаюць, і гусі паздыхалі і калгасьнікам мала прыходзіцца на цэлы год харчоў. І калгасьнікі, як Старавойт Флёрка, хоча ад такога калгасу выпісацца.

Цяперака, дарагія нашы таварышы—і Калінін і Партыя—просім вас, за адным заходам, адкажэце нам, што нам рабіць. Мы і да гэтага часу пішамся аднасобнымі і нам нават нялоўка перад вамі казаць, што мы такія. Бо ў нас ужо вельмі шмат усюды калгасьнікаў. Як, скажам, у Бродзе, у Прыстані, у Крынічках. Ды і саўгас Чырвонае ў нас пад бокам. Мы бачым усю іхнюю жызьню і нас падшыхае вялікая ахвота. І нам шмат гаварыў пра калгасы, таксама рабочы таварыш, Такарскі, што жыве ў Чырвоным. І мы, увесь гэты канец, цямім, што яно вельмі на добрае хініцё вы нашага брата.

Мы добра ведаем, якою пакутаю жылі нашы бацькі. Мы памятаем, як наш даўнейшы пан Калечыц жывадзёрам драў шкуру—краў на-

шу жызьню і як мы біліся, каб убачыць хоць кавалак яе ўцехі. Бывала з сухою скарынкаю касу цягалі на калечыцавых аблогах. Ды яшчэ яму як трэба і не ўнаровіш. А цяперака, прышлося, далі вы нам права на жыцьцё, дык яго ў нас узялі, можна сказаць, ды адабралі. Усё рабілася з раптоўнасьці. Нам, можна сказаць, ня было як трэба расказана пра калгас, дык мы на першым сходзе ўзялі ды сплашылі. А потым гэты самы Ахрэм пераняў—зрабіўся калгасным аматарам і мы цяперака ня хочам прыпісвацца да таго канца, ня хочам быць разам з Ахрэмам. Мы-б хацелі, каб самім сабою. Альбо хай нас прыпішуць за пяць вёрст да Бродаўскага і мы вельмі будзем ахвочы. Мы, як паглядзім на Танцулькавы хітрыкі, дык у нас проста ацінае, па-праўдзе кажучы, рукі і вельмі шкода, што праз яго псуецца калгаснае празваньне. І людзі пабочныя, хто ня ведае, маюць гэта на воку. А калі шчэ ўспамянеш, ведаеце, як гэта бывала нашы мужчыны хадзілі да гэтага Ахрэма, як і да таго Калечыца, на сівец, альбо гной вазамі вывозілі, аж, неяк сэрца ёкае. І от цяперака, гэты самы Харытон, можна сказаць, сілком прымушае ісьці, жыць разам з Ахрэмам. Ды яшчэ ні прашто нашага суседа кулачыць.

Так што, таварыш Калінін і таварыш Партыя, яшчэ раз просім вас, як вы зьяўляецеса нашай савецкаю ўласьцю, дапамажэце нам парадаю. Мы прасілі-б вас, каб Харытона проста такі вы перадалі ў суд за такую несправядлівасьць на шчот Міхася. А Танцульку, ня гледзячы, што ён зараз зьяўляецца і калгасьнікам, ды калі ўлічыць, што калгасьнік Старавойт Флёрка і шмат другіх калгасьнікаў—нездаволены ім, членам ўпраўленьня калгасу—зьняць яго з калгасьнікаў. А таксама пасадзіць у калгас другога старшыню. Бо старшыня, Банадыс, Крот, хоць ён і не такі як Танцулька, а ў Чырвонай арміі ня служыў, а быў праз увесь час дызэртырам і старшынёю, па-нашаму, не павінен быць. Пры гэтым трэба сказаць, што хоць ён і старшыня, а ім найбольш камандуець Ахрэм Танцулька. Так, як зьяўляецца Крот, уродзе недапечаны, ці як у нас на яго кажуць—целягаваты.

Дык от калі, вы дарагія нашы таварышы — Савецкая ўлада — усё гэта напісанае намі, гэтым канцом аднаасобных Муравейнікаў прымеце на ўніманьне — мы вельмі будзем вам дзякаваць. Бо цераз гэта мы зможам прылучыцца да таго канца, каб хоць перад нашаю старыковаю сьмерцьцю, убачыць кавалачак не раскрадзенай жызьні і дзецям нашым пакінуць яе, нераўнуючы, як тое завяшчане“.

. . . . . . . . . . . . . . .

Надарэмна Павэлак уздымаў гаворку, што павязе ён заяву. Ня было грошаў на дарожны білет, каб перадаць заяву з рук у рукі. А ў Павэлака быў канвэрт. Некалі пісаў з Чырвонага фронту да жонкі:—адзін бок сьпісаны на канвэрце. Міхась выпрастаў канвэртныя ражкі, захінуў імі сьпісаны бок—картапляным крахмалам папрыклейваў бе- ражкі. Саўсім новы вышаў канвэрт. Тады асьцярожна заяву ўлажылі ды ізноў заклеілі крахмалам.

Да самага вечару чакалі Бярчукоўскага Косьціка—лістаносца. Калі здавалі Косьціку заказны ліст, Павэлак аж другім разам зазначыў:

— Глядзі-ж, хлапец, ня згубі. Гэта табе ня просты, які-небудзь ліст, а заказаны і абчэсьцьвены.

Сьцяпан Ліхадзіеўскі

## З ЧЫРВОНАГА ПАГРАНІЧЧА

### 1. Сіні аколыш, зялёны верх

Сіні аколыш,
зялёны верх...
Ночы вакольнай,
таварыш,
ня вер!

Думка—зьнічкай.
Ды знае даўно
чырвоны пагранічнік
прымежную ноч.

Месяц, як зазвычай,
на сосны ня ўзьлез—
чырвоны пагранічнік
ведае лес.

Ціш нечакана
выплюне стрэл—
сэрца
тахт чаканіць,
слых—
вастрэй.

Крокі пералічаць
з шорахам ля вязаў—
знае пагранічнік
свой абавязак!

Сэмафор зачынены.
Дарогай ня ступаць.
Плешча чырваньню
кляновы лістапад.

Ночы вакольнай,
таварыш,
ня вер!
...Сіні аколыш,
зялёны верх...

### 2. Вал ня дрэмле

Асеньняе неба.
Гразь і рось.
Размытыя руіны.
Даўжэзны вал.
(Раджаўся нявольнік.
Жыў. Рос.
Князю падноскі
цалаваў).
Мо' каму й да сэрца
гоман веча,
старажытнасьці
гнілая твань...
Наш сягоньнешні
бунтарскі вецер
жмені сьвежасьці
сыпле ў твар!
Гэты вал абстрэльваўся
ня раз тут—
ён таіў, захоўваў
і бярог...
Узьнімалі
кілім
кантрастаў
здатныя рукі
разьбяроў.
Вал ня дрэмле.
І стынуць руіны...
настрой пагранічча...
трывожная ціш...
Прыходзяць сыны
маладой краіны
да валу
ў абстрэлены цір.
Сёньня выходны:—
Хмураць бровы.
Лоб маршчыняць.
Уздых цішэе.
Хлопцы-камсамольцы
з дробнакалібровай
жараць па „яблычку“,
дратуюць мішэні!

### 3. Маладзіца пасылае пасланцоў

Рана-рана
вышла маладзіца
з крыўдай горкай,

як нідзе на сьвеце,
вышла прагна
глянуць-падзівіцца
на калёны трактароў савецкіх.

Задуменна
стоячы на ўзгорку
і вачыма
просячы ратунку
праклінала
той палын прагорклы,
праз які затруены лятункі.

Звала-звала
долю залатую
і надзей
высейвала маністы...
Як-жа жыць,
калі жыцьцё гвалтуюць,
глушаць песьню
ашалелым сьвістам?

Прыгадала
цень братоў астрожных,
выхаванцаў
пушчы Белавескай...
Ня прыносіць
злое раздарожжа
любых сэрцу,
поўных сонца, вестак.

Пасылае
ў раньне маладзіца
пасланцоў
краіне працы шчаснай.
Бор у люстра возера глядзіцца,
не зачахне
гэты бор дачасна!

**4. Рукі прэч!**

Напявалі дзесьці псальмы
і ўсхвалялі незалежнасьць.
Мы-ж прышлі і напісалі:
Камунізм сатрэ ўсе межы!

Клешні чорныя ўзьнімалі,
за Дняпро сігалі ў марах.
Заспакоенасьць нямая
грае жудасьцю над аркай.

Знаем, знаем—
вы ахвочы
блізкі нам канец прарочыць,
краю вольнаму у вочы
плюнуць з гордасьцю шляхочай!

Вартавыя толькі нашы
не дарэмна ўсьцяж пасталі.
Слых свой у асеньнім маршы
вострацць нашыя заставы.

А сыгнал—
у дзень барвовы
паплыве ваш сквіл за ветрам...
Свае гоні—
абаронім!
Рукі прэч!
Тут Край Саветаў!

Уладзімер Хадыка

* * *

Запелі зноў ліпнёвыя вятры
Пра зелень лета тонам галасістым.
Рады вушніц наставілі двары
І слухаюць задумна і ўрачыста.

Музычны лад жытнёвых берагоў
Законам дзён скірованы да зьмены.
Шукае здань аб'едзеных стагоў
І на крывавых вуснах рэшткі пены.

Ушанована яшчэ старая злосьць
У гэтай шлюндры чорнага ста-
годзьдзя...
І сёньня тут я—ня жыхар, ня госьць,
І не прарок, якіх было ў народзе.

Я не навучан, гледзячы на столь,
Дарыць хлусьню і стукаць палец
у палец.
Бяру жыцьцё праз радасьць і праз
боль,
Праз сьмех і плач яго шумлівай
хвалі.

У золаце вячэрняга агню
Я тым адрозьнены,
Што падыйшоў да форткі,
Суцішна глянуўшы ў шчэляпы каню,
У крамныя адзеты порткі.

І на сустрэчны тост старых дзядзь-
коў
Я сьціпла гаварыў,

Што мы ня знаем сьмерці,
Што перайшлі мы праз вякі вякоў,
Хоць вылі ворагі
І рвалі нас на чвэрці.

Трывожным часам ў клопаце дарог,
Каб ня гулі быльлём, мы зруйна-
валі межы...
Нас не павесіць царскі абібок
І найміт панскі ў прыцем не зарэжа.

Разбоем збэшчаны бандыцкі іх
пастой
Пад крыльлямі арла—
Счакае сваёй раты...

Гарэў усход, пралётаў зорак рой,
І ў громе воплескаў стаялі хаты.

Праз бойны троп ступіў я на алёс—
І ў вільгаці ягоных ночных казак
Я адчуваў, як я дужэў і рос—
У трапна знойдзеных жывых адказах.

З вясёлым днём я прывітаў зямлю
І сэрца гойдала гармонікавым
рыпам,
Што штучным словам шчырасьць
ня глумлю,
Што радасьці вянок мой не аб-
шчыпан.

19/VII-31 г.

Максім Лужанін

. . . „У вёсцы Воўкавічы Наваградзкага ваяводзтва павешаны паліцэйскімі агентамі дэфэнзывы член таварыства беларускай школы Тодар Марчук“ . . .
„Зьвязда“

## ЗАКОНАМ АГНЮ

(З рэчы „Галасы гарадоў“)

Тады —
ноч сутонлівая
мінала брамы,
мінала город
і
ў поле ішла.
І зялёнае сонца
стаяла
над дварамі,
каб ніводнага ценю
на шлях
не пасланць.
Тады —
канчалася
дбайная работа —
нафтавых каралёў
і
камандараў бірж.
10.000 беспрацоўных —
слова няўпотай —
сьпявалі,
клеілі адозвы
на зрыўках афіш.
— Прэч
анонсы
пра
ножкі
міс
Дэві!
Хлеб
і
малако
для
галодных
дзяцей!
Пустымі вачыма
залі
шантанаў глядзелі
І дэфэнзыва
прымала
начных гасьцей.
На нагах
скура
абшарпалася
мохрамі.
А сілы —
мала.
Хоць украдзь пайдзі!
І неба,
вымазанае
жоўтай
вохраю
перахварбоўвае
маладзік.
Знаеце напорнасьць?
яе —
ня здушылі.
Каб ...
ня лапаю ...
голад ...
А то —
возьме,
зграбе...
А ў сутарэньні
бразгала
машына,
друкуючы адозву
Ка-Пэ-Зэ-Бэ.
І цені былі.
І адзеньне
рвалі.
І цені білі.
І цень
крычаў.
І кроў
падступала
пад сэрца
хваляй
і тоненькім
струменчыкам
зьбягала з пляча.
А калі
ў лесе
палеглі пошчакі,
хвойка
зялёная

прыназеміла гук:
стаяў
неадпомшчаны
жывы
нябожчык,
імя катораму —
Тодар Марчук.
І здань расла.
І цені ўцякалі.
І цені крычалі.
А ён —
маўчаў.
І кроў,
што сэрца ўздымала
хваляю,
палілася крыніцай
у дарожны раўчак.
Яна разводзьдзем
плыла
ў габінэты,
гасіла электрычнасьць,
гасіла дзень,
крывавымі літарамі
выходзілі
газэты
на чырвонай пэргаміне
неадпомшчаных дзей.
Яны зьбіраліся,
каржакаватыя,
прысадзістыя,
найлепшыя косы
выгострываў
брус.
І —
запалалі
сядзібы асаднікаў,
па ўсёй краіне —
Заходняя Беларусь.
Гэта —
сыходзіліся
першыя рэўкомы,
у пушчы,
каторыя —
хаты без дзьвярэй —
законам агню
і
законам грому
падпісваць першы
рэвалюцыйны дэкрэт.

Сяргей Дарожны

## РАЗЬВІТАНЬНЕ

Не глядзелі штату.
Трэба?—
Працавалі.
Досьвету хадзілі рэзаць траўны шоўк.
Што-ж, бывайце, хлопцы,
Час, і нам прыпала...
Бараніць краіну наш чарод прышоў.

Ты будуй, таварыш,
Падавайце цэглу,
Разьвінайце песень будаўнічы рой.
Каб прарыву пляма
Ганьбаю ня легла.
Ты будуй, таварыш,
Моцна стой!

Не здавалі ў працы,
Не здамо і ў бойцы,
Вартаю няўтомнай станем на мяжы.
Запявайце песьню звоны-колаколцы.
Не айчыне едзем,
Не цару служыць!

Па мяжы вандруе,
Точыць вораг іклы,
Злыбедаю сякне чортава гайня...
Толькі нам ня нова,
Да такога звыклі,
На выпадак маем стрэльбу і каня.

Налівайся песьня ў баявой калёне,
Гайды ды дзевяты
Дапрызыўны год!
На плячы вінтоўка,
Па бакох патроны.
Паршую каманду падае камрот...

Ня сумуйце, хлопцы,
На старой балоне,
Перадайце любай ад байца прывет.
Не за мора-ж едам.
Стаць на абарону
Нездарма нас кліча
РЭВВАЕНСАВЕТ.

Яўген Жук

## ЁСЬЦЬ КАНТАКТ!

Нарыс

Роўна ў вызначаны час—а паўдні, я ўжо быў на аэродроме. Дзяжурны па лягеру, распытаўшы спачатку, досыць падрабязна, для якой мэты мне патрэбен камандзір, паказаў яго палатку. Яна знаходзілася на самым канцы палатнянага гарадку.

Калі я ўвайшоў у палатку, за сталом сядзеў сярэдняга росту, шырокаплечы, яшчэ досыць малады камандзір авіяатраду.

Мы прывіталіся.

— Значыць ляцім сёньня? — сьмяючыся запытаў ён і не чакаючы адказу на сваё запытаньне, звара чаючыся да трэцяга прысутнага тут пачаў:

— Таварыш Пятроў! Праз паўгадзіны вы павінны ляцець на сваім самалёце. Перад вамі ляжыць адна задача: раскідаць па вёсках адозвы, якія даслала нам рэдакцыя газэты „Калгасьнік Беларусі". У якасьці пасажыра з вамі паляціць супрацоўнік рэдакцыі. Вазьмеце карту і адзначце на ёй тыя пункты, дзе вы павінны скідаць адозвы згодна вось гэтага маршруту. Падрыхтуйцеся.

Камандзір дастаў з кішэні пачку папярос № 2, прыкурыў і вышаў з палаткі.

Мы засталіся ўдвох.

Таварыш Пятроў — камуніст, лётнікам з 1928 году. Ня глядзячы на свой дваццаціпяцігадовы ўзрост, ён мае багаты вопыт. Больш 30 тысяч кілёмэтраў паветранага шляху зрабіў ён за час свае службы лётнікам.

Ён не сьпяшаючы дастаў з палявой сумкі карту БССР, аловак і лінейку, разгарнуў карту на стале і пачаў простымі лініямі злучаць пункты маршруту палёту.

Праз некалькі хвілін карта была падрыхтавана.

— Цяпер хадзем у маю палатку і я падбяру для вас касьцюм для палёту, — сказаў Пятроў.

Мы вышлі з палаткі камандзіра, прайшлі пару дзесяткаў крокаў і апынуліся ў палатняным доміку лётніка. Пятроў выбраў для мяне комбінэзон (штаны і рубашка сшытыя разам з сіняга колеру матэрыі, накшталт брэзэнту) і пачаў апранацца сам. Прайшло мала часу і мы апранутыя вышлі з палаткі.

* * *

Каля дзесятка чырвонаармейцаў адчынілі дзьверы і выкацілі з ангару самалёт. Пакуль мэханік аглядаў гэтую невялікую, на двох чалавек паветраную машыну вырабу савецкіх заводаў, мы ўдвох з чырвонаармейцам падрыхтоўвалі адозвы, складалі іх пачкамі па 300—400 экзэмпляраў і ня туга перавязвалі тонкім шпагатам.

Мэханік далажыў лётніку, што матор у спраўнасьці і самалёт гатоў да палёту. Аднак, гэта было яшчэ ня ўсё. Пасьля мэханіка, у прысутнасьці камандзіра атраду, Пятроў сам зноў аглядзеў самалёт знадворна і спрабаваў матор. Такі парадак існуе ў авіяцыі.

— Усё ў парадку, таварыш камандзір. Да палёту гатовы.

Аглядзеўшы напасьледак яшчэ вопратку на сабе, туга зашпіліўшы скураныя шапкі, мы адзелі акуляры і палезьлі ў кабіны — у першай

лётнік, у другой — я. Адозвы зьвязаныя пачкамі паклалі ў другую кабіну.

Мне ўпяршыню давялося ў сваім жыцьці ляцець на самалёце. Таму, калі мне прапанавалі, седзячы ў адкрытай да паловы тулава кабіне прывязацца поясам, я ніяк ня мог самастойна прарабіць гэта — зашчапка не замыкалася. На дапамогу прышоў ваенком.

Нарэшце і апошнія прыгатаваньні скончаны.

Пачалі заводзіць матор. Трое чалавек, на чале з мэханікам, пакруцілі два-тры разы прапэлер. Вінт пачаў круціцца туга — у поршань матору папала мешаніна бэнзіну з паветрам.

— Кантакт! — крыкнуў мэханік.

— Ёсьць! — у момант адказаў лётнік і ўключыў кантакт.

Загудзеў матор, са сьвістам, разразаючы паветра, закруціўся прапэлер. З трубы, з левага боку пад крыльлямі самалёту, вылятала полымя агню. Гэта адпрацаваны газ выходзіў з цыліндру.

Ня глядзячы на цёплы ліпнёвы дзень, дзе некалькі хвілін таму назад так моцна прыпякала сонца, тут каля самалёту пачаўся вецер. Хвалі яго з усёй сілай білі ў твар.

Матор гудзеў, але самалёт яшчэ стаяў на месцы. І калі падняцьцем угару рукі лётнік папрасіў старт, старцёр-дзяжурны чырвонаармеец —падняў белы сьцяг і рэзка апусьціў яго ўніз. Гэта сыгнал — узьлётнае поле вольнае і самалёт можа падымацца. Пятроў прыбавіў газу і колы самалёту плаўна пакаціліся па пясчаным жвіру пляцоўкі аэродрому.

Калі мы адарваліся ад зямлі, я не адчуваў. Азірнуўшыся пару разоў па бакох відаць спачатку была пляцоўка, па якой каціліся колы машыны, зялёныя палоскі поля, ззаду слупам цягнуўся пыл і, нарэшце, далёка ўнізе ўжо быў горад. Толькі цяпер я зразумеў, што мы знаходзімся ў паветры.

Альцімэтр (прылада, якая паказвае вышыню ўзьняцьця над зямлёю) паказаў 100 мэтраў. Самалёт крута павярнуўся ўправа, вышэй пачаў падымацца ўгару, і тады толькі відаць была тая пляцоўка, тое ўзьлётнае поле, з якога некалькі хвілін таму назад мы падняліся. Яно пералівалася радугамі фарбаў. Мураваныя двох і трохпавярховыя будынкі выглядалі адсюль, з вышыні, невялікімі плямамі. Досыць ярка выдзяляўся на агульным фоне земнай паверхні палатняны горад аэродрому. Далёка відаць былі трубы фабрык і заводаў. Людзей пазнаць было цяжка...

Хараство земнага краявіду з вышыні птушынага палёту, сьвядомасьць пра тое, што руль самалёту знаходзіцца ў выпрабаваных руках лётніка-камуніста, міжвольна прымушалі забыцца пра баязьлівасьць і страх, якімі я жыў яшчэ там, стоячы на зямлі, і пра якія расказвалі мне блізкія таварышы напярэдадні палёту.

Мы хутка рухаліся наперад і перад вачыма адкрываліся новыя малюнкі і прыгожасьці зямлі.

Усё вышэй і вышэй падымаючыся ўгару, самалёт пачаў рабіць кругі над горадам. Кіно-істужкай праходзілі ўнізе малюнкі гораду. Ды яно і ня дзіўна — мінімальная хуткасьць самалёту 120 кілёмэтраў у гадзіну.

Спачатку ярка відаць былі срабрыстыя рэйкі чыгункі, раптам перад вачыма зьявіўся парк, рака, нарэшце іх месца занялі бязьмежныя абшары поля за горадам.

Калі я паглядзеў на альцімэтр стрэлка паказвала 500 мэтраў. З такой вышыні кідаць адозвы нельга. Пятроў апусьціў самалёт ніжэй, павярнуў галаву ўправа і паглядзеў уніз — ён выбіраў месца адкуль з ветрам можна скідаць гэтыя невялічкія кавалкі друкаванай паперы.

А сіла ветру тут давала сябе адчуваць. Яна бязьлітасна сьцябала па твары, залазіла ў кожную невялічкую шчыліну туга зашпіленай шапкі лётніка, раздувала, нібы пу-

хір, рукавы комбінэзону. Здавалася — высунь руку за борт кабіны і яе пераломіць напалам. Адны вочы не баяліся дзікай, бязьлітаснай сілы ветру — яны былі схованы ад яе пад акулярамі.

Нарэшце, Пятроў падняў правую руку—гэта быў умоўны сыгнал падрыхтавацца мне для кіданьня. Я хутка адсунуў да краю пачкі адозвы шпагат, якім была яна перавязана, адшпіліў на сабе пояс і перагнуўшы пачку напалову моцна сьціснуў у руках лістоўкі. І калі лётнік махнуў рукою, я падняўся, перагнуўся праз край кабіны і з усёй сілай кінуў пачку адозвы ўніз. Сілай ветра шпагат спаў і сотні лісткоў паперы паляцелі на горад.

* * *

Беларусь Савецкая ў гэты дзень сьвяткавала 11 гадавіну вызваленьня з белапанскага прыгнёту. Па гарадох, калгасах, саўгасах і вёсках праходзілі дэманстрацыі. Сьвяточны настрой адчуваўся, нават адсюль, з вышыні. Чырвоныя сьцягі яскрава выдзяляліся на паверхні зямлі. І калі самалёт нізка апускаўся над зямлёю і рабіў віраж, пачыналася ў вёсках ажыўленьне. Тады кідаліся з самалёту адозвы. Штурхаліся, хапалі лістоўкі. А на іх было напісана:

„...*Дарагія таварышы!* Лепшым адказам усім ворагам дыктатуры пралетарыяту ў дзень 11-годзьдзя вызваленьня БССР ад белапалякаў зьявіцца:

Магутны новы прыліў аднаасобных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у калгасы Савецкай Беларусі!

* * *

А лістоўкі ўсё падалі і падалі на зямлю. Сотні кавалкаў друкаванай паперы спачатку кружыліся доўга ў паветры, хвалі ветру трымалі іх над зямлёй, а пасьля павольна ляцелі адозвы туды, уніз, дзе стаялі людзі.

І калі відаць было, што тысячныя натоўпы дэманстрантаў прыціхлі, групамі ў дзесяткі чалавек зьбіраліся ў кола і чыталі іх, тады самалёт ляцеў далей.

Зьяўляліся новыя краявіды, новае мора людзкое масы, новыя калгасы, вёскі, пасёлкі...

Прагнымі вачыма ўглядаліся людзі ў блакітны прастор неба, адкуль чуцен быў гул паветранай машыны, прагнымі вачыма чыталі лістоўкі, што падалі ўніз.

Узгоркі, балоты, лясы, хмызьнякі не перашкаджаюць самалёту. Кароткі шлях выбірае ён паміж самымі далёкімі куткамі для агітацыйнай работы па калектывізацыі.

—Кантакт ёсьць!—міжвольна прыпомніліся мне словы мэханіка і лётніка...

Ліпень — 1931 г.

С. Куніцкі

# ПРА ТВОРЧАСЬЦЬ КРАПІВЫ

(Агульная характарыстыка)

На літаратурную ніву Крапіва выступіў у 1922 годзе. У той час, калі ўжо быў зроблен пераход ад палітыкі вайсковага камунізму да палітыкі нэпу. Калі рабочая кляса ў саюзе з асноўнай масай працоўнага сялянства, пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі, прыступілі да адбудовы разбуранай імпэрыялістычнай і грамадзянскай войнамі народнай гаспадаркі.

Крапіва выступіў яркім прадстаўніком серадняцкага пласту вёскі, калі серадняк стаў саюзьнікам пралетарыяту, калі ён стаў на абарону савецкай улады. Менавіта на першым этапе сваёй творчасьці Крапіва адлюстроўвае серадняцкі пласт вёскі.

Крапіва выступіў, як пратэстант супроць „бяспрынцыпнай“ сялянскай літаратуры, супроць сялянскай літаратуры наогул,—фактычна, суб'ектыўна ці аб'ектыўна супроць нацыянал-дэмакратычнай літаратуры, якая лічыла сябе літаратурай сялянскай. Ад гэтай літаратуры Крапіва адпіхаецца. Крапіва пачынае весьці барацьбу за новы рэалістычны напрамак. Ён, як прадстаўнік працоўнага сялянства, накіроўвае сваё вострае пяро супроць усяго таго старога, рэакцыйнага, што мяшае працоўнаму селяніну паляпшаць сваё становішча на шляху свабоды, супроць таго, што зьяўлялася крыніцай і прычынай беднасьці, што мяшала яго разьвіцьцю ў бок паляпшэньня свайго дабрабыту, сваёй індывідуальнай гаспадаркі. Крапіва выступіў з ясным уяўленьнем аб тым, што „наогул“ апяваць селяніна нельга, што пэўная частка сялянства-кулацтва зьяўляецца ворагам працоўных. Што гэта частка сялянства (кулацтва), разам з іншымі эксплёатуючымі клясамі, прыгняталі працоўнага селяніна, не давалі яму выйсьця, трымалі яго ў гразі, цемры, беднасьці і, што супроць кулацтва, як і ўсіх эксплёататараў наогул, трэба весьці барацьбу.

Такім чынам, Крапіва сваю творчасьць ставіць на шлях Кастрычніка, на шлях рэвалюцыі. Ён, хаця і па свойму, успрымае яе ідэі і бачыць у ёй выйсьце для працоўнага сялянства з жабрацкага становішча. Вось чаму Крапіва, хаця і стоячы на абароне індывідуальнай гаспадаркі, на абароне моцнага гаспадара-серадняка, ня быў супроць савецкай улады, а наадварот, у пэўнай меры, адпаведна ідэй серадняка, абараняў яе магутнасьць і дапамагаў весьці рашучую барацьбу за гэту ўладу. Крапіва сваёй творчасьцю вядзе асаблівую барацьбу супроць рэлігіі, супроць цемры,—за новую вёску, супроць старых чыноўнікаў, якія тым ці іншым чынам пралезьлі ў савецкі апарат, супроць бюракратаў.

Вядучы барацьбу за культурнага гаспадара вёскі, за вёску пісьменную, з пазыцыі індывідуальнай серадняцкай гаспадаркі Крапіва асабліва жорстка абураецца супроць рэлігійнага дурману, супроць папоўшчыны, супроць іх абману працоўнага селяніна. Ён добра разумее, што рэлігія мяшае працоўнаму селяніну, па-новаму перабудоўваць сваю гаспадарку, што яна зьяўляецца тым густым сітам, вузкімі варотамі, праз якія прыходзілася

цадзіць, прыходзілася пускаць у працоўную вёску прамені навукі, прамені новай культуры. Ён добра разумее, што рэлігія ёсьць зброя ў руках эксплёататараў і накірвана на прыгнечаньне працоўных.

Барацьба з рэлігіяй у гэты час асабліва была аднэй з важных работ у працоўным асяродзьдзі як гораду, так і вёскі—асабліва. І тут Крапіва сваёй творчасьцю, бязумоўна, адыграў не малую ролю. Ён як талянавіты пісьменьнік, як востры сатырык, як перадавік свайго сацыяльнага пласту вёскі—серадняцтва, вялікую частку сваёй творчасьці групуе на гэтым вучастку.

У сваіх антырэлігійных творах Крапіва яскрава, пераканаўча ўскрывае перад працоўнымі ўсю фальш, абман рэлігійных „законаў". Ён ясна заяўляе, што бога няма, што „бога стварыў чалавек", што ўсе гэтыя сьвятыя культы (царква, касьцёл, сынагога) зьяўляюцца тымі трыбунамі, адкуль распаўсюджваецца цемра, лганства, засланяецца шлях працоўным да праўды.

І таму ён у творы „Мы не паклонімся богу" так востра і злосна супроць гэтага ўсяго абураецца.

„Мы не паклонімся богу—
Бога стварыў чалавек,—
Шырэй-жа к праўдзе дарогу!
Лганству ня месца ў наш век.
К чорту касьцёлы, капліцы,
Цэрквы, званіцы, званы!—
Мы ўжо ня будзем маліцца—
Нам не патрэбны яны".

Крапіва піша рад антырэлігійных твораў, якія накіраваны на зьнішчэньне гэтага лганства. Ён піша такі вялікі антырэлігійны твор, як „Біблія", дзе ўскрывае тыя супярэчнасьці, якія маюцца ў так званай сьвятой бібліі, у адносінах да аб'ектыўнай рэчаіснасьці. Бяручы біблейскія палажэньні, ён іх супастаўляе з фактамі матар'яльнай рачаістасьці. Ён паказвае, што біблію напісалі, выдумалі эксплёатуючыя клясы, для прыгнечаньня працоўных. Ён кажа:

„Хто пісаў у кнігу гэту
Аб стварэньні хоць-бы сьвету?
Ні жывёлы-ж, ні людзей
Ня было тады нідзе".

Другой характэрнай рысай творчасьці Крапівы зьяўляецца зноў-такі барацьба за новага культурнага селяніна,—барацьба за новы побыт. Гэта другая лінія барацьбы неразрыўна зьвязана з антырэлігійнай лініяй. Яны выцякаюць з аднэй асновы барацьбы,—ператварэньня раней прыгнечанага селяніна серадняка у культурнага гаспадара новай вёскі.

У барацьбе за новы побыт селяніна, у барацьбе за новую вёску з гэтай пазыцыі Крапіва таксама, як і барацьбе супроць рэлігіі прысьвячае досыць шмат сатыр і баек. Ён таскама як і па лініі барацьбы супроць рэлігіі ўсе кусочкі старога побыту, старой вёскі высьмейвае, паказвае іх рэакцыйную сутнасьць. Ён змагаецца супроць п'янства, супроць дзікунскіх вячоркаў, супроць розных плётак, бруду, цемры і г. д.

Крапіва сваёй творчасьцю заклікае працоўнага селяніна заводзіць новы побыт, вядучы барацьбу са старым, дае прыклад, як патрэбна будаваць сваю гаспадарку, каб яна была больш рэнтабельнай, як аздаравіць умовы жыцьця сялянскай сям'і, што для таго, каб быць культурным гаспадаром патрэбна чытаць газэту, патрэбна ведаць, што дзеецца на сьвеце. Гэта ўсё вельмі яскрава ім выказана ў творы „Ціт заводзіць новы быт". У ім аўтар кажа:

„Паглядзеце вы на Ціта:
Вынёс ён у хлеў карыта,
І падсьвінкаў і сьвіней.
Выгнаў з хаты і з сяней
Узяўшы дзетак на падмогу
Палажыў сяк-так падлогу,—
Не на жарты, мусіць, Ціт
Стаў заводзіць новы быт".

Далей аўтар паказвае, што гэты Ціт выпісвае газэту, перайшоў на шматпольле, сеець любін, ня лаецца ў сям'і, у царкву ня ходзіць і інш. Аўтар яго паказвае як свой

ідэал, як культурнага моцнага гаспадара і заклікае пасьледваць яго прыкладу іншым:

„Тодар, Ян, Язэп, Мікіта!
Чым вы горшыя за Ціта?
Дык пачнеце-ж, як і Ціт,
Вы заводзіць новы быт“.

Гэты твор вельмі яскрава паказвае, куды аўтар накіроўвае свайго цёмнага, някультурнага селяніна. Ён яго накіроўвае на шлях культурнай, моцнай індывідуальнай гаспадаркі. Накіроўваючы гэтага селяніна на шлях моцнай індывідуальнай гаспадаркі, Крапіва гэтым самым яго накіроўваў у бок кулацкай гаспадаркі, адцягваючы яго ад сацыялістычнага шляху вёскі.

Але-ж каб стаць культурным селянінам ён павінен у корні зьмяніць адносіны і да сям'і, у прыватнасьці да жанчыны.

У адным творы „Ты ня лайся дзядзя пры савецкай уладзе“ аўтар кажа:

„Не чапай-жа дзядзя
Ты сваю кабету—
Пры савецкай уладзе
Хай паглядзіць сьвету,
Бо і табе-ж лепш будзе,
Калі выйдзе ў людзі“.

Мы бачым, што па лініі барацьбы за новы побыт завостранасьць твораў зьяўляецца ня меншай, чым і па лініі антырэлігійнай.

У поўнай меры Крапіва змагаецца і за магутнасьць савецкай улады. Ён з захапленьнем пералічае тыя гераічныя перамогі на фронце грамадзянскай вайны, якія атрымала Чырвоная армія, калі

„Адусюль паналяцелі
За здабычу гурганы,
Вольнай волі захацелі
Вочы выкалаць яны“.

Крапіва змагаецца за савецкую ўладу, як за волю, як за ўладу сваю,—рабоча-сялянскую, якая паляпшае жыцьцё працоўных.

Ён з абурэньнем адносіцца да капіталістычных дзяржаў, дзе працоўны люд яшчэ і да гэтага часу прыгнятаецца, дзе правадыры „працоўных“, правадыры II-га Інтэрнацыяналу дапамагаюць капіталістам трымаць у цемры, эксплёатаваць працоўных. Адносна такіх правадыроў у байцы „Вол і авадзень“ аўтар кажа:

„Ня мала ёсьць правадыроў,
Якія любяць люд працоўны,
За тое толькі, бязумоўна,
Што любяць яго кроў.
Але дождуцца яны дня
Змахнуць і іх як авадня“.

У поўнай меры ён бічуе і ўнутраных ворагаў савецкай улады: бюракратаў, чыноўнікаў, рвачоў і інш. Дастаткова ўспомніць яго таленавіта напісаныя байкі: „Старшыня“, „Дзед і баба“, „Далікатныя парасяты“, „Ганарысты парсюк“, „Кормны і надворны“ і рад іншых твораў, дзе бічуецца гэты вораг савецкай улады.

Але з часам (прыблізна 1926 год) завостранасьць творчасьці Крапівы, яе баявізм неяк зьніжаецца. Разам з гэтым зьніжаецца адносна першага пэрыяду і колькасны рост яго прадукцыі. Крапіва неяк замыкаецца, з аднаго боку у вузкі бытавізм, замыкаецца ў тэй індывідуальнай гаспадарцы, якую ён адлюстроўвае і за якую ён змагаецца, а з другога боку, ён аб'ектыўна супроцьстаўляе гэтую індывідуальную гаспадарку сацыялістычнаму працэсу гораду і вёскі („Кляса“, „Падарожжа“).

Свайго моцнага серадняка ён цягне ў бок кулацкай гаспадаркі. І фактычна на другім этапе сваёй творчасьці (1926-29 гады), Крапіва аб'ектыўна ці суб'ектыўна абараняе кулацкую гаспадарку, ён падпадае пад значны ўплыў кулацкай ідэалёгіі,—тэй ідэалёгіі, якая займала пануючае месца на працягу 1927-28 гадоў у згуртаваньні „Узвышша“.

Але рашучы зрух сялянства ў бок калектывізацыі ў 1929 годзе, рашучы паварот серадняка ад сваёй індывідуальнай гаспадаркі на рэйкі

калектывізацыі, індустрыялізацыя краіны і рад іншых перамог на сацыялістычным фронце робіць некаторы зрух у творчасьці Крапівы. Гэты зрух можна прасачыць на апошнім этапе яго творчасьці, пачынаючы з канца 1929 году. Гэты зрух можна прасачыць на яго вялікім творы, які напісан ім у 1930 годзе і зьмешчан у апошніх нумарох „Узвышша" за 1930 год („Хвядос чырвоны нос").

Гэты твор паказвае, як аўтар яшчэ не пазбавіўся, з аднаго боку, таго-ж вузкага бытавізму, індывідуальнасьці, а з другога боку аўтар парывае з гэтым бытавізмам, выходзіць за межы індывідуальнай гаспадаркі, марыць аб сьветлай будучыне, аб сацыялістычным ладзе. Ён у гэтым творы выступае ўжо не з пазыцыі індывідуальнай гаспадаркі (ён яе пакідае), а неяк (хаця досыць нерашуча) выступае за сацыялістычнае будаўніцтва. Ён бачыць перавагу калектыўнай гаспадаркі над гаспадаркай індывідуальнай.

Гэты зрух у бок сацыялістычнага будаўніцтва паказваюць і апошнія творы Крапівы, якія друкаваліся ў газэце „Зьвязда" і часопісе „Узвышша" за 1931 год. Ён у апошніх сваіх творах ужо не ідэалізуе індывідуальную гаспадарку, тым больш не абараняе кулацкіх тэндэнцый гэтай гаспадаркі, а ставіць пытаньне аб сацыялістычным мэтадзе працы, аб кадрах сацбудаўніцтва і г. д.

Апошнія творы Крапівы набываюць актуальнасьць, палітычную завостранасьць, баявізм, які накіроўваецца на абарону ўжо не індывідуальнай гаспадаркі, а гаспадаркі калектыўнай, на абарону сацыялістычнага будаўніцтва краіны.